№ 13 (754) 4 красавіка 2012 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕ…

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва



## Мільянер са скальпелем

«Амкадоравец» Аляксандр Шакуцін ледзь не патрапіў пад санкцыі Еўрасаюза. Старонка 5.

# Затрымалі на мяжы з Расіяй

Лідары апазіцыі замест Брусэля аказаліся **на аршанскіх нарах**. **Старонка 3.**

**Спорт**

### Домрачава: Абараняю чырвона-зялёны сцяг

«Яго ўздымаюць у мой гонар». **Старонка 8.**



**Грамадства**

### Топінг у Смаргоні: слупы замест дрэваў

«Я разумею, што дрэнна. Але будзе налета добра». **Старонка 9.**



**Музыка**

### Рок-каранацыя без каралёў

Памідораў на ўручэнне не прыйшоў. **Старонка 11.**



**Палеміка**

### Нельга хаваць злачынствы партызанаў

Пішуць Дзяніс Рабянок, Сяргей Ваганаў. **Старонка 13.**



**Фотафакт**



## Халодная вясна

Такі дубар на пачатку красавіка ў Беларусі бывае раз на восем гадоў.

PHOTO BYMEDIA.NET

**Тэндэнцыі**

## Ждут-с

Расія чакае ад Беларусі палітычнай волі **на допуск да прыватызацыі** нафтаперапрацоўкі і нафтаправодаў.

Апошняя заява дарадцы пасольства Расіі ў Мінску падліла алею ў агонь непакою, што Масква хоча атрымаць поўны кантроль над беларускай гаспадаркай. Дарадца па эканамічных пытаннях пасольства Расійскай Федэрацыі ў Беларусі Віктар Балашоў заявіў, што Расії «трэба чакаць ад Беларусі палітычнай волі для пачатку ўдзелу ў прыватызацыйных здзелках у сферах нафтаперапрацоўкі і транспарту нафты».

«Узаемадзеянне з расійскімі нафтавымі кампаніямі цяпер становіцца вельмі эфектыўным. Трэба чакаць сур'ёзных інвестпраектаў, трэба чакаць палітычнай волі», — заявіў С.Балашоў у панядзелак журналістам у Мінску.

Ён не стаў удавацца ў дэталі. Але з задавальненнем адзначыў апошнюю заяву Аляксандра Лукашэнкі пра тое, што прыватызавана можа быць любое беларускае прадпрыемства.

Пераход газавай і нафтавай інфраструктуры ў рукі Расіі зробіць немагчымай дыверсіфікацыю крыніц энерганосьбітаў для краіны. У сваю чаргу, чэрпаючы нафту і газ з аднаго жарала, Беларусь прырэчаная на палітычную і культурную васальнасць. У выніку, пакуль іншыя еўрапейскія нацыі згуртаваліся ў Еўрасаюз, Беларусь застаецца адсталым саюзнікам адсталай Расіі.

**Мікола Бугай**

# Дзеля будучыні Беларусі

Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Радзім Гарэцкі і Анатоль Грыцкевіч — за скліканне **Усебеларускага з’езда**.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Падзеі апошняга часу ў жыцці Бацькаўшчыны выклікаюць вострую трывогу за яе будучыню.

Фінансавы крызіс, дэвальвацыя рубля выявілі слабасць айчыннай эканомікі. Распачаты продаж дзяржаўнай маёмасці пагражае стратай нацыянальнага багацця, нажытага многімі пакаленнямі беларусаў. З-за непрадбачлівай і непаслядоўнай замежнай палітыкі наша краіна нястрымна аддаляецца ад дэмакратычнага свету і ўпарта коціцца да міжнароднай ізаляцыі. Настойлівымі высілкамі чынавенства груба і няўхільна дыскрымінуецца нацыянальная культура, выціскаецца са штодзённага ўжытку беларуская мова — падсякаюцца карані нацыі. Няўмольна паглыбляюцца экалагічныя і дэмаграфічныя праблемы. Усё гэта ставіць пад пагрозу не толькі перспектывы цывілізаванага развіцця Рэспублікі Беларусь, але і яе незалежнасць.

Надышоў час усёй грамадой прааналізаваць сённяшні дзень Радзімы, знайсці шляхі выпраўлення калектыўных памылак і пралікаў, цвяроза і цвёрда паставіць задачы далейшага станаўлення і сцвярджэння нацыянальнай дзяржавы.

Гісторыя ніколі і нікому не даруе бяздзейнасці на складаных, вызначальных яе паваротах. Усе здаровыя сілы нашага грамадства мусяць адкінуць асабістыя і карпаратыўныя амбіцыі дзеля святой і галоўнай мэты — свабоды і шчасця народа.

У газеце «Народная Воля» за 2 сакавіка Уладзімір Някляеў выказаў прапанову аб скліканні Усебеларускага з’езда. Мы падтрымліваем гэтую прапанову — і ўсіх, хто занепакоены лёсам Бацькаўшчыны, заклікаем да яднання!

Давайце схамянёмся. Давайце адумаемся. Давайце згуртуемся. Давайце ўсвядомім нарэшце свой абавязак перад нашчадкамі, перад чалавецтвам, перад гісторыяй, перад Беларуссю.

Мы можам перамагчы. Мы павінны перамагчы. Мы пераможам, калі будзем разам.

**Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Радзім Гарэцкі, Анатоль Грыцкевіч, сустаршыні Усебеларускага з’езда за незалежнасць 2000 г.**

## А першая дзе?

Лукашэнка: Беларусь гатова да будаўніцтва **другой АЭС**.

Пра гэта ён заявіў на сустрэчы з гендырэктарам Міжнароднага агенцтва па атамнай энергіі (МАГАТЭ) Юкія Амана, які знаходзіцца з візітам у Мінску. «Калі будзе ваша садзейнічанне, падтрымка і адпаведныя ўмовы, мы гатовыя і другую атамную станцыю пабудаваць у Беларусі», — сказаў Лукашэнка.

Ён цвёрда перакананы, што ядзерная энергетыка — гэта найбольш бяспечны шлях атрымання таннай энергіі.

Аляксандр Лукашэнка ведае пра намеры Германіі згарнуць ядзерныя праекты. «У гэты асаблівы перыяд мы цвёрда і адназначна заяўляем аб тым, што мы не проста маем намер пабудаваць атамную электрастанцыю, але і пачалі яе будаўніцтва», — сказаў ён.

Лукашэнка сцвярджае, што большасць насельніцтва краіны падтрымлівае пабудову АЭС.

Нагадаем, што першую АЭС Беларусі маюць збудаваць расіяне каля мяжы з Літвой, у Астравецкім раёне. Увод першага блока запланаваны на 2017, другога блока — на 2017–2018. Сваіх грошай на будоўлю лукашэнкаўцы не маюць, праект будзе рэалізаваны ў доўг, на расійскі крэдыт.

**Мікола Бугай**

## У Грэцыі расследуюць загадку «вострава сляпых»

Да сляпых вострава Закінтас масава **вяртаецца зрок**.



Востраў Закінтас раней вабіў сваімі руінамі венецыянскай эпохі, а таксама блакітнымі водамі на пляжах. Цяпер ён стаў вядомы яшчэ і надзвычайнай колькасцю сляпых. Новы ўрад краіны, які праводзіць палітыку строгай эканоміі, выявіў, што працэнт сляпых на востраве аж у 9 разоў перавышае сярэднееўрапейскі. У ЕС прыкладна 0,2% людзей лічацца інвалідамі па зроку. На Закінтасе — аж 1,8%.

Праверка выявіла, што дапамогу як сляпыя атрымліваюць, у тым ліку, мясцовы таксіст і птушкалоў (ёсць і такая пасада ў сацыяльна арыентаванай Грэцыі).

Грэцыя сутыкнулася з вялікім эканамічным крызісам праз тое, што ўрад доўгі час прыхоўваў сапраўдны памер дзяржаўнага доўгу, а выдаткі бюджэту ўвесь час раслі.

Праваслаўная царква Грэцыі пакуль ніяк не зрэагавала на эпідэмію слепаты на Закінтасе. Але ёй варта пільнаваць сітуацыю: хутка на востраве сляпыя масава і раптоўна стануць відушчымі.

**МБ**

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам даставіць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад’езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190786828

Адрз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

## Сцісла

**Працоўны дзень з панядзелка 23 красавіка пераносіцца на суботу 28 красавіка**

На Радуніцу будуць тры выхадныя дні, бо 21 красавіка пройдзе агульнарэспубліканскі суботнік. Не выключана, што пазней будзе перанесены і працоўны дзень з 30 красавіка (панядзелак), бо 1 Мая прыпадае сёлета на аўторак.

**Праезд у грамадскім транспарце Мінска падаражае 5 красавіка**

Талончык будзе каштаваць 1500 рублёў.

**Сацыёлагі: Беларусам санкцыі ЕС абыякавыя**

24% падтрымліваюць санкцыі, 37% усё адно — такія вынікі дало апытанне, праведзенае Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (Літва). Тое самае датычыць і заклікаў некаторых беларускіх і заходніх палітыкаў не праводзіць у Беларусі Чэмпіянат свету па хакеі ў 2014, калі да таго часу ў краіне не спыняцца парушэнні правоў чалавека. 13% апытаных ставяцца да гэтай ініцыятывы станоўча, 37% — абыякава.

**Цела ў рацэ**

Цела маладога чалавека 2 красавіка знайшлі і дасталі з ракі Піна ў раёне вуліцы Столінскай вадалазы. Выпадковы сведка бачыў, як з моста ўпаў чалавек. Прычыну смерці загінулага ўстанаўлівае судова-медыцынская экспертыза. Следчыя разглядаюць некалькі версій трагедыі, у тым ліку самагубства. Нябожчык працаваў рабочым на адным з прадпрыемстваў.

**СГ**

**За тыдзень — Вялікдзень або Вербная нядзеля**

Каталікі і пратэстанты распачалі Вялікі тыдзень, у праваслаўных ён на сем дзён пазней.

У мінулую нядзелю каталікі Беларусі адзначалі Вербніцу, або Пальмовую нядзелю, калі свяцань вербы ў гонар уваходу Ісуса Хрыста ў Ерусалім. Гэтая нядзеля ў календары каталікоў і пратэстантаў — Вялікая. Вялікдзень у іх прыпадае сёлета на 8 красавіка.

А праваслаўныя 7 красавіка святкуюць Дабравешчанне (Звеставанне). 8 красавіка ў іх — Вербніца. А Вялікдзень будзе 15 красавіка.

**СГ**

### Самае чытанае на nn.by за 28 сакавіка — 3 красавіка 2012

1. Лідараў апазіцыі затрымалі на мяжы з Расіяй
2. Патрыярх Кірыл: У кватэры пражываюць траюрадныя сёстры
3. Домрачава: Я абараняю колеры чырвона-зялёнага сцяга + фота
4. Мара беларуса: «Руроващчокая, славянская, беларускамоўная»
5. Шымаў шкадуе, што людзі валодаюць жыллём
6. Лукашэнка вачыма псіхолага
7. Хто купіў квіток на «Крамбы» ў Вільню дзеля бясплатнай візы...
8. Ва Украіне памерла ахвяра скандальнага згвалтавання
9. Зорка Playboy стала намеснікам дырэктара Кіева-Пячорскай лаўры?
10. Выстава «Пагоня» — у сядзібе Партыі БНФ + выявы карцін

# Замест Брусэля — аршанскі ІЧУ

Калякіна, Лябедзьку і Атрошчанкава **не пусцілі** на сустрэчу з еўракамісарам Фюле.

Гэта адбылося ў Оршы ў ноч на 28 сакавіка. Палітыкі ехалі ў Маскву, каб адтуль паляцець у Брусэль.

«Нечаканкай было, што мы ўсе апынуліся ў адным купэ, — расказвае каардынатар «Еўрапейскай Беларусі» Аляксандр Атрошчанкаў. — Білеты ж куплялі ў розны час».

«Калі толькі заходзілі ў вагон, то пабачылі чалавека ў цывільным, які фіксаваў усіх. Леглі, хоць і не спалі, бо чакалі нейкіх правакацый», — працягвае Атрошчанкаў.

Лідары АГП і «Справядлівага света» Анатоль Лябедзька і Сяргей Калякін ужо ведалі, што яны знаходзяцца ў «чорных спісах» невыязных, бо іх разварочвалі на літоўскай мяжы. Тым не менш, карыстаючыся адсутнасцю мяжы з Расіяй, яны ўсё адно бесперашкодна прыязджалі на месцы сустрэчаў. Чацвёртым у гэтым купэ быў сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі, якога не чапалі, а далі праехаць далей.

Затрыманні на расійскай мяжы адбыліся ўпершыню. Міліцыя зняла апазіцыянераў з цягніка, тлумачачы, што шукае наркотыкі. Вядома, нічога не знайшлі, але і адпускаць проста так не збіраліся. Супраць Калякіна, Лябедзькі і Атрошчанкава завялі адміністрацыйныя справы.

Можна было пачуць галасы дакораў, што «невыязныя» карыстаюцца камфартабельнымі цягнікамі, а не перасякаюць мяжу ўпотайкі на аўтамабілях. «Ёсць час для партызанскіх сцежак, а ёсць для галоўных», — адказвае на гэта Аляксандр Атрошчанкаў.

Цэлы наступны дзень мужчын прамарынавалі ў аршанскім ІЧУ. Суды так і не адбыліся. Больш чым праз суткі пасля затрымання апазіцыянераў асудзілі ў паўзакрытым рэжыме. Абышлося ўсё штрафам, а не суткамі — 35 базавых велічынь.



SVABODA.ORG

**Атрошчанкаў (справа): Нашу пазіцыю ўсё адно ўлічылі. Орша, 29 сакавіка, пасля суда.**

Што датычыць сустрэчы ў Брусэлі, то на ёй 29 сакавіка быў дадзены старт новай праграме ЕС «Еўрапейскі дыялог для мадэрнізацыі Беларусі». Яе прадставіў еўракамісар па пытаннях пашырэння і палітыцы добрасуседства Штэфан Фюле.

«ЕС і яго краіны-ўдзельніцы хочуць падзяліцца з Беларуссю сваім паспяховым вопытам пераходу да дэмакратыі і рыначнай эканомікі, — растлумачыў еўракамісар Андрыс Піебалгс сутнасць праекта. — ЕС гатовы стварыць неабходныя ўмовы для еўрапейскіх кампаній і фінансавых інстытутаў для аказання дапамогі ў трансфармацыі і ўдзеле ў будучых прыватызацыйных працэсах у Беларусі».

Як бачым, гаворка на канферэнцыі зусім не ішла на тэму пашырэння санкцый. Каму з беларусаў усё ж атрымалася дабрацца да Брусэля? «Мілінкевіч там быў, Януковіч, Рымашэўскі, Дзмітрыеў, Фядута, прадстаўнікі «трэцяга сектара», — кажа Атрошчанкаў.

У дадатак да знаходжання ў ІЧУ апазіцыянерам так і не аддалі пашпарты. «Пасля вызвалення мы паехалі ва УУС на транспарце Оршы. Нам вярнулі ўсе рэчы, акрамя пашпартоў», — кажа Атрошчанкаў. Ён упэўнены, што свае дакументы яны ўжо не пабачаць. Так было з праваабаронцам Алегам Воўчакам, якому пасля адміністрацыйнага затрымання пашпарт не аддалі — давялося рабіць новы.

Затрыманыя апазіцыянеры перакананыя, што іх пазіцыя ўсё адно будзе пачутая і ўлічаная.

**Зміцер Панкавец**

**Як мяжу перасек Шушкевіч**

Наведаўшы рэдакцыю газеты The Washington Post, Шушкевіч расказаў, што ён — ведаючы, што ягоны мабільны тэлефон праслухоўваецца беларускімі спецслужбамі — абзвоньваў сваіх знаёмых і сяброў, паведамляючы ім, калі і на якім цягніку ён збіраецца ехаць у Маскву. А насамрэч Станіслаў Станіслававіч перасек беларуска-расейскую мяжу ў машыне, потым уехаў у Латвію, адтуль у Літву, а з Вільні вылецеў самалётам у ЗША. У Вашынгтоне Шушкевіч атрымаў прэстыжны «Медаль Свабоды» Трумэна—Рэйгана.

**Анекдот у тэму**

Усё ж затрымліваць апазіцыянераў у Оршы — гэта пакуль не ўзровень. Вось калі цягнік, на якім апазіцыянеры едуць у Маскву, будуць незаўважна разварочваць, каб яны ноч ехалі, а прачыналіся зноў у Мінску — гэта будзе крута.

# Лябедзька: Маці нараджаюць сыноў не для таго, каб з іх рабілі цвікі

Прайшоў **XIV з'езд** Аб'яднанай грамадзянскай партыі.



**Кандыдаты ад АГП здымуцца за пяць дзён да галасавання »**

**Выступ Лябедзькі быў вобразны і іранічны.**

**Намеснікі старшыні АГП сталі:**

Прадпрымальнік з Барысава Леў Марголін, гомельскі актывіст Васіль Палякоў, старшыня грамадскага аб'яднання «Жаночы незалежны дэмакратычны рух» Людміла Пеціна, юрыст Антаніна Кавалёва.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У фае палаца МТЗ звыкла прадаваўся мёд. Трэба было прайсці праз яткі са шчучынскім і башкірскім ласункам, каб трапіць у залу. Над сцэнай вісеў сцяг АГП. Два гады таму, перад выбарамі, быў вялізны плакат з фотаздымкамі 33 сяброў партыі. Сёлета больш сціпла.

З'езд вялі народная артыстка Зінаіда Бандарэнка і намеснік Лябедзькі Леў Марголін. Размаўлялі па-беларуску. Найперш у шэрагі партыі былі прыняты маці палітвязня Аліневіча Валянціна, а таксама палкоўнік міліцыі ў адстаўцы Мікалай Казлоў.

«І хоць мы розныя, але цесныя партнёры. У нас непадобныя погляды на эканоміку, сацыяльную сферу. Тым не менш, толькі ад агульнай працы залежыць, ці пабудуем мы асновы дэмакратычнага грамадства», — сказаў у вітальным слове старшыня «Справядлівага света» Сяргей Калякін.

Пакуль госці выступалі з прамовамі, Анатоль Лябедзька паспяваў посціць у фэйсбук навіны з'езда. Час новых тэхналогій.

Калі слова далі старшыні партыі, то спачатку Лябедзька падышоў да мікрафона, але адразу ж пачаў рабіць крокі наперад, бліжэй да залы. На ягоным пінжаку ўжо быў замацаваны маленечкі мікрафон, што дазволіла выступаць, ходзячы па сцэне, а не за трыбунай, што надавала пэўнай жывасці і эфектнасці. Выступаў метафарычна, іранічна, па-беларуску.

«Прэзідэнцкая кампанія да 19 снежня была пазітыўнай. Потым было велізарнае выпрабаванне», — сказаў Лябедзька, які мог лёгка прапусціць гэты з'езд, калі б замест штрафу атрымаў суткі ў Оршы. «З мяне яшчэ не выйшаў пах аршанскага ІЧУ», — пажартаваў палітык.

Як праблема адзначалася тое, што партыя так і не набыла «жаночы твар», большасць партыйцаў па-ранейшаму мужчыны. Яшчэ адным момантам са знакам мінус называлася тое, што ў партыі «не з'яўляецца новых Чыгіроў, Дабравольскіх».

Лябедзька далікатна абыходзіў тэму Яраслава Раманчука, але на выкрык з залы «Раманчук — гэта вялізная памылка партыі», павінен быў зрэагаваць. «Маці нараджаюць сыноў не для таго, каб з іх рабілі цвікі. Адзінкі вытрымалі ўсё, што з імі рабілася ў «амерыканцы». Не напісалі прашэнняў, не агаварылі паплечнікаў. Тут у зале знаходзіцца маці Ігара Аліневіча. Гэты хлопец са стрыжнем, ён усё вытрымае, але ўпэўнены, што яго мама нараджала не для гэтага».

Пры канцы выступу палітык расказаў байку пра мужчын, якія часалі камяні. «Што ты робіш? — запыталіся ў першага. — Я апрацоўваю камень, мучаюся, так усё надакучыла. Тое самае спыталіся ў другога чалавека: што робіш ты? — Я будую ўніверсітэт для сваіх дзяцей. Гэтак і мы павінны ведаць, што робім і для чаго».

У перапынках з'езда грала «Пагоня» ў выкананні Мулявіна.

У выніку Анатоль Лябедзька на безальтэрнатыўнай аснове пераабраны старшынёй. Лідар «Маладых дэмакратаў» Алег Корбан зняў сваю кандыдатуру, што знайшло разуменне ў зале.

Партыя будзе ўдзельнічаць у парламенцкіх выбарах, але на апошнім этапе, за пяць дзён да галасавання, кандыдаты ад АГП здымуцца. Кампанія атрымае назву «За чэсныя выбары». Кандыдаты ад АГП будуць пераконваць грамадзян, што «Лукашэнка — гэта тупік», а выхадам могуць стаць свабодныя выбары без Лукашэнкі.

**ЗП**

# Каваленку праз зонд кормяць дзіцячым харчаваннем

Падчас кармлення **прывязваюць да ложка**.

Турэмны лекар паведаміў Алене Каваленцы, што мужа шэсць разоў на дзень пачалі карміць праз зонд дзіцячымі сумесямі «Беллакт». Па словах лекара, тэмпература ў Сяргея паніжаная, «ціск быццам нармальны».

Яшчэ 31 сакавіка лекар псіхіятрычнага аддзялення пры калоніі «Віцьба-3» сказаў Алене, што стан здароўя Сяргея стаў бліжэйшым да цяжкага. І ў выпадку далейшага пагаршэння яго могуць перавесці ў цывільны шпіталь.

Дактары не дазваляюць жонцы палітвязня і яго маці Лідзіі ўбачыцца з ім. Адзіны кантакт — праз саміх лекараў. Па словах Алены, медыкі паведамілі, што да Сяргея ўжываюць таксама парэнтаральнае кармленне: праз катэтар у вену яму ўводзяць фізраствор, глюкозу, амінакіслоты. Кропельніцы яму ставяць на 8—9 гадзін штодня. Як і раней, Сяргея пры такім кармленні прывязваюць да ложка.

Сяргей Каваленка галадае з 19 лютага. Перад гэтым ён трымаў 30-дзённую галадоўку ў СІЗА, з якой яго выводзілі прымусовым харчаваннем.

**Кастусь Матушыч**

**Парантаральнае кармленне**

Адбываецца праз вену. Можа быць частковым і поўным. Частковае выкарыстоўваецца для пакрыцця дэфіцыту некаторых карысных рэчываў і з'яўляецца толькі дадаткам да звычайнага рацыёну. Поўнае паказана асобам, якія не могуць прымаць ежу звычайным шляхам, але маюць патрэбу ў атрыманні пажыўных рэчываў.

**Як гэта было ў СССР**

Савецкі дысідэнт Анатоль Марчанка 4 жніўня 1986 пасля свайго шостага арышту аб'явіў галадоўку з патрабаваннем вызваліць усіх палітвязняў. На 40-ы дзень галадоўкі яго пачалі прымусова карміць штодня, акрамя нядзелі. Марчанка спосаб прымусовага кармлення ў адкрытым лісце да генеральнага пракурора СССР назваў катаваннямі. Ён апісаў увесь працэс. «Пажыўная сумесь гатуецца наўмысна з буйнымі кавалачкамі-камячкамі з прадуктаў, якія не праходзяць праз шланг, а затрымліваюцца ў ім і, забіваючы яго, не прапускаюць пажыўную сумесь у страўнік. Пад выглядам прачысткі шланга мне ладзяць катаванні, масажуючы і тузаючы шланг, не вымаючы яго з майго страўніка». Па словах Марчанкі, выклікаючы вострыя боль у страўніку, такім чынам прымушалі самога выйсці з галадоўкі, якую ён у выніку трымаў 117 дзён. Праз 12 дзён пасля выхаду з галадоўкі Марчанка трапіў у бальніцу, дзе і памёр. Па афіцыйнай версіі, ад сардэчна-сасудзістай недастатковасці.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Плакат у падтрымку Каваленкі на Дзень Волі.

**Меркаванні**

## Шымаў шкадуе, што людзі валодаюць жыллём

У гэтым эканаміст-лукашэнкавец **бачыць прычыну крызісу** ў краіне.



«Мы дапусцілі адну стратэгічную памылку, — расказаў былы міністр эканомікі і рэктар БДЭУ ў інтэрв'ю Юрыю Казіятку на СТВ, — мы вырашылі, што кожны грамадзянін павінен мець уласнае жыллё», — сказаў Уладзімір Шымаў.

«Гэта яшчэ гарбачоўскі лозунг!» — папраўіў яго Казіятка.

«І пад гэты лозунг сталі, па-першае, прыватызаваць усё жыллё, — нарасае Шымаў. — А потым сталі выдаваць ільготныя крэдыты. Разумееце, парадокс атрымаўся: мы выдаём ільготныя крэдыты, дзяржава льгатуе будаўніцтва жылля, а затым датуе эксплуатацыю праз жыллёва-камунальныя паслугі. Такім чынам, вось такі мінус атрымліваецца».

«Увесь свет развіваецца ў гэтым сегменце па-іншаму, — лічыць рэктар. — Кватэра павінна быць заробленая, там чалавек мае ўласную кватэру гадоў у 40, калі ён вельмі добра, інтэнсіўна працуе, а да гэтага вялікая частка насельніцтва — калі ўзяць развітыя краіны еўрапейскія — 70–80% насельніцтва — жыве ў арандаваным жыллі. Разумееце? Вось нам трэба сёння гэтую палітыку выраўноўваць, і тады ў нас пагроз эмісіі пад жыллёвае будаўніцтва не будзе, таму што не сакрэт, што вялікая частка вось той праблемы, якая ўзнікла ў нас на валютным рынку, звязаная з жыллёвай эмісіяй».

**Мікола Бугай**

## На пытанне пра «невыязных» Жадобін кінуў слухаўку

**Датэлефанавацца да міністра** было няпроста.

Прамую лінію з міністрам абароны ладзіла газета «Советская Белоруссия». Мы вырашылі высветліць у чыноўніка, чаму журналістаў і грамадскіх дзеячаў непрызыўнога ўзросту абвінавачваюць ва ўхіленні ад прызыву на вайсковую службу. І па гэтай прычыне не выпускаюць за мяжу.



Датэлефанавацца да Юрыя Жадобіна было нялёгка. Калі ж на другім канцы драта пачулася: «Міністр абароны слухае...», папрасілі яго патлумачыць сітуацыю.

Пасля агучанага пытання мужчынскі голас папрасіў хвілінку пачакаць. А праз некалькі секунд у слухаўцы пачуліся кароткія гудкі.

Магчыма, абрыў на лініі? Набіраем нумар яшчэ і яшчэ. З разу дзясятага адказаў міністр Жадобін. Зноў задаём пытанне. Але ў слухаўцы пайшлі кароткія гудкі. Тэлефанаваць трэці раз міністру абароны з нязручным пытаннем мы не сталі.

**КМ**

## Еўразійскі суд па правах чалавека ці прафанацыя?

«Не за гарамі станаўленне новага інтэграцыйнага аб'яднання — Еўразійскага саюза. Ужо створаны і дзейнічаюць такія наднацыянальныя органы, як Еўразійская эканамічная камісія, суд ЕўрЭзЭС. Магчыма, трэба падумаць і аб стварэнні суда па правах чалавека», — сказаў у інтэрв'ю БТ дэпутат палаты прадстаўнікоў Мікалай Самасейка.

Еўрапейскі суд па правах чалавека дзейнічае ў Страсбургу (Францыя). Яго юрысдыкцыя распаўсюджваецца на ўсе краіны-сябры Рады Еўропы, у тым ліку і Расію. Беларусь, як вядома, не з'яўляецца сябрам Рады Еўропы.

Беларусь, Расія і Казахстан крытыкуюцца міжнароднымі арганізацыямі за парушэнні правоў чалавека. Наўрад ці можна разлічваць на аб'ектыўнасць такой арганізацыі, калі яна насамрэч паўстане.

**ЗП**

**Сцісла**

**Бяляцкі чытае «Жыццё і лёс»**

22 сакавіка палітвязня Алеся Бяляцкага перавялі з каранціну Бабруйскай калоніі ў атрад. Атрад працоўны, займаецца швейнай вытворчасцю. «Я з 2 да 17 гадоў жыў у Светлагорску, а гэта 60 км адсюль, таму адчуваю сябе як дома», — жартуе палітвязень. «Прачытаў тут у каранціне другую частку рамана Гросмана «Жыццё і лёс», — піша праваабаронца. У адным з ранейшых лістоў Бяляцкі параўноўваў сваю цяперашнюю долю з ракой, якая нясе яго незалежна ад ягонай волі.

**Паслы вернуцца пасля Вялікадня?**

Калі толькі Лукашэнка не ўчыніць чагосьці страшнага і калі застанецца жывы Каваленка, піша брусэльскае выданне EUobserver.

**Партыя БНФ: існаванне Рады БНР дае магчымасць пераглядаць дамовы з Крамлём**

Сойм партыі заклікае стварыць пры ЕС пастаяннае прадстаўніцтва БНР. «Зыходзячы з нормаў беларускага і міжнароднага права, само існаванне Рады БНР з'яўляецца гарантыяй таго, што ўсе дамовы паміж цяперашнімі ўладамі і Крамлём, якія ставяць пад пагрозу нацыянальны суверэнітэт нашай дзяржавы, могуць быць перагледжаны не толькі ў гістарычнай перспектыве, але і ў юрыдычным сэнсе», — адзначаецца ў заяве сойма БНФ.

**МЗС Польшчы параўнаў Беларусь з КНДР**

Пра гэта гаворыцца ў дакладзе міністра замежных спраў Польшчы Радаслава Сікорскага. «Беларускі лідар можа саджаць у турмы апазіцыянераў, але цалкам залежыць ад тых, хто пастаўляе ў Беларусь нафту або газ ці прапануе яму крэдытныя гарантыі або пагражае іх адменай. Таксама і паўночнакарэйскі рэжым існуе ад літасці Кітая», — гаворыцца ў дакладзе.

**МБ, ЗП**

# Мільянер са скальпелем

«Амкадоравец» **Аляксандр Шакуцін** — самы багаты сенатар Беларусі, які ледзь не патрапіў пад санкцыі Еўрасаюза.



Аляксандр Шакуцін (злева) і кіраўнік Рады бяспекі Леанід Мальцаў на семінары для кіруючых работнікаў.

БЕЛТА

Уладзімір Пефціеў, Юрый Чыж, Анатоль Тарнаўскі — тройца беларускіх бізнэсоўцаў з чорнага спіса Еўрасаюза. Візавыя санкцыі і эканамічныя абмежаванні мусяць ускладніць ім вядзенне бізнэсу. Хто яшчэ мог апынуцца ў «чорнай» кампаніі? Сярод кандыдатаў у гэты не вельмі пачэсны спіс называліся ўладальнік «Санта-Брэмара» Аляксандр Машэнскі, стваральнік «Тытунь-Інвеста» Павел Тапузідзіс, а таксама Аляксандр Шакуцін. «Наша Ніва» расказвае пра апошняга з іх.

## Сенатар з «Белай Русі»

Старшыня рады дырэктараў «Амкадора» Аляксандр Шакуцін знаходзіцца нашмат бліжэй да ўлады за астатніх бізнэсоўцаў. Рэч у тым, што Шакуцін — сам улада. З 2008 года ён уваходзіць у савет рэспублікі, з'яўляючыся намеснікам камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы. Быць сенатарам — няпыльная, але прыбытковая праца. Да дэвальвацыі зарплата складала каля $1000. Але бізнэсоўцаў тут мала, можна назваць хіба што яшчэ генеральнага дырэктара віцебскага абутковага «Марка» Мікалая Мартынава.

Прозвішча Шакуціна можна знайсці і сярод членаў прэзідыума «Белай Русі». Спіс афіцыёзных дасягненняў вянчаюць два медалі ў гонар перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

### Імперыя «Амкадора»

У склад канцэрна ўваходзяць прадпрыемствы ў Мінску («Белвар», «Унікаб», «Унімоб», «Спецсэрвіс», «Торг»), Жодзіне («Літ»), Крупках («Можа»), Пінску, Маладзечне, Лагойску, Дзяржынску. Назвы пералічаных прадпрыемстваў пачынаюцца з прыстаўкі «Амкадор». Апроч таго, ва ўласнасці знаходзяцца заводы ў Бранску, пад Вільняй («Амкадор-Балтык»), «Дормаш», «Дормашмет», «Ударнік», завод імя Гастэлы ў Мінску, калгас «Амкадор-Шклоў». Агульная колькасць супрацоўнікаў — больш за 5 тысяч чалавек.

### Брат-2

Хоць Аляксандр Шакуцін прамяняў медыцыну на больш прыбытковы занятак, фармацэўтычным бізнэсам займаецца зводны брат сенатара, Сяргей. Ён — уладальнік кампаніі «Іскамед», аднаго з найбуйнейшых імпарцёраў лекаў і актыўнага ўдзельніка дзяржаўных тэндараў. Яму належыць сетка аптэк, 11 з іх адкрыта ў Мінску і ўдвая больш у рэгіёнах.



Непалец Упендра Махата — галоўны акцыянер «Амкадора»

## Хірург-камсамолец

У афіцыйнай біяграфіі сенатара пазначана, што ён нарадзіўся ў 1959 на Аршаншчыне ў вёсцы Вялікае Бабіна. Пачаўшы з працы трактарыстам у мясцовым калгасе, паехаў у сталіцу рэспублікі вучыцца на доктара. Тут, у Мінскім дзяржаўным медыцынскім інстытуце (цяперашні Медуніверсітэт), Шакуцін заадно праявіў і актыўную грамадскую пазіцыю — стаў намеснікам сакратара інстытуцкага камсамола, а таксама камандзірам студэнцкіх будаўнічых штабоў мінскага абкама камсамола. Магчыма, менавіта пра тыя часы Шакуцін узгадваў у інтэрв'ю «Белгазеце», абураючыся магчымым увядзеннем санкцый: «Яшчэ ў Савецкім Саюзе я змагаўся з падобнымі абмежавальнымі мерамі. А сёння ЕС паводзіць сябе гэтак жа, як Палітбюро тады. У Еўропе хапае сваіх праблем, але яны хочуць, каб і ў нас было дрэнна».

Медыцынская кар'ера Шакуціна ішла ўгару — яго прызначылі загадчыкам хірургічным аддзяленнем у 10-й гарадской бальніцы Мінска, а пасля дырэктарам медыцынскага цэнтра МАЗа.

## Пераход з медыцыны ў прамысловасць

Абвяшчэнне незалежнасці краіны ў 1991 азначала для Шакуціна, як і для многіх іншых прадпрымальных беларусаў, пачатак новага жыцця. Заплыў да вялікіх грошай быў павольным. Спачатку хірург узначаліў навукова-вытворчае «ПрамМедІнвест» (цяпер «ПМІ-Груп»), неўзабавеператворанае ў акцыянернае таварыства. Пастаўкі медыцынскай тэхнікі змяніліся на больш прыбытковы імпарт тэхнікі на прадпрыемствы краіны. Шакуцін і цяпер застаецца ў кіраўніцтве кампаніі, дзейнасць якой у многім звязаная з продажамі за мяжу прадукцыі «Амкадора» — галоўнай крыніцы багацця сенатара.

## Непальскае адценне завода

«Амкадор», акцыянерам якога з'яўляецца Шакуцін, заслугоўвае асобнага расповеду. Завод дарожнай і будаўнічай тэхнікі быў створаны яшчэ ў 1920-х, аднак у гісторыю Беларусі ён трапіў як першае буйное прадпрыемства Беларусі, у якім прайшло акцыянаванне. Яго яшчэ ў 1991 ажыццявіў прэзідэнт канцэрна Васіль Шлындзікаў, які быў заўзятым прыхільнікам рынкавай эканомікі. Пакуль астатнія заводы ледзь трымаліся на плаву, ягонае прадпрыемства імкліва нарошчвала магутнасці. Шлындзікаў пакінуў сваю пасаду ў 1996. Дэпутат Вярхоўнага Савета і намеснік старшыні АГП, ён вырашыў прысвяціць сябе палітыцы.

А на «Амкадор» прыйшлі замежныя інвестыцыйныя кампаніі. Цяпер кантрольны пакет (каля 60%) акцый холдынга належаць ганароваму консулу Непала ў Беларусі Упендра Махата. Апроч таго, ён кантралюе некалькі бізнэс-цэнтраў у Мінску. Непалец жыве ў Маскве, таму «кіраванне на месцах» ажыццяўляе Аляксандр Шакуцін як уладальнік другога па велічыні пакета акцый. Каштоўныя паперы засталіся і ў многіх работнікаў «Амкадора» пачатку 1990-х. Агульная колькасць акцыянераў перавышае 3 тысячы чалавек, аднак ніхто з іх у апошнія гады не атрымлівае ні рубля дывідэндаў. Пры гэтым чысты прыбытак «Амкадора» за 2010 склаў $11,2 мільёна, а за тры кварталы 2011 — яшчэ $31,2 мільёна.

## Цэнтр новага холдынга

Прадпрыемства з'яўляецца адным з самых паспяховых у краіне, таму Аляксандр Лукашэнка і абраў яго для таго, каб стварыць вакол «Амкадора» холдынг. Падобная практыка прымяняецца і ў іншых галінах эканомікі. Напрыклад, прыбытковы «Савушкаў прадукт» Аляксандра Машэнскага мае аб'яднаць вакол сябе многія беларускія малаказаводы. Гэтыя выпадкі вылучаюцца тым, што магчымасць стварэння холдынга даецца прыватніку. Для гэтага дзяржава прадае яму за бясцэнак (фактычна аддае) некалькі іншых прадпрыемстваў. Так здарылася і з «Амкадорам».

Напрыклад, у сярэдзіне 2011 Аляксандр Лукашэнка сваім указам дазволіў прадаць канцэрну тры заводы: дзяржынскі «**Аграмаш**», лагойскі «**Эпас**» і **Мінскі прыборабудаўнічы завод** (цяпер «Амкадор-Белвар») за сімвалічныя $1,5 мільёна.

Зрэшты, не кожнае прадпрыемства прыходзіць да Шакуціна і Махата само. «Амкадор» праводзіць экспансію і за мяжу. У 2009 годзе канцэрн выкупіў завод «Энергазапчастка» ў расійскім Бранску і Пабяржскі завод сельскагаспадарчага машынабудавання пад Вільняй. Выхад на рынак Еўрасаюза не павінен уводзіць у зман. «Амкадор» пастаўляе сваю прадукцыю ў дзясяткі краінаў свету. 50% сыходзіць у Расію, яшчэ 35% тэхнікі асядае ў Беларусі, але сярод астатніх пакупнікоў краінаў Еўропы мала, там перадусім Венесуэла, Індыя і Непал.



Алена Ланская вярнула прыз за перамогу на «Еўрафэсце».

## Старанны мецэнат

З імем Шакуціна звязаная і скандальная гісторыя з перамогай Алены Ланской у адборы на «Еўрабачанне-2012». Выкарыстанне адміністратыўнага рэсурсу, які і прывёў да поспеху спявачкі, абярнулася нечаканай паразай і вывалачкай, якую атрымалі ад Аляксандра Лукашэнкі ўсе арганізатары конкурсу, апроч Шакуціна. На публіку трапілі цікавыя падрабязнасці. Напрыклад, палову ад выдаткаў «Еўрафэста» аплачваў «Амкадор» — цікава, ці давалі на гэта згоду акцыянеры, якія сядзяць без дывідэндаў?

Чаму ж Шакуцін так лабіраваў перамогу Ланской? Алена — адна з трох выканаўцаў, што працуюць у ягоным прадзюсарскім цэнтры «Спамаш», разам з Іванам Буслаем і Дарыяй. Але самая паспяховая сярод калегаў — летась перамагла на «Славянскім базары».

Прадзюсарскі цэнтр быў створаны яшчэ сем гадоў таму ў памяць дачкі Шакуціна, якая загінула ў аўтакатастрофе. У назве схавана расійскамоўная фраза — «СПАсение МАши Шакутиной». Гэты быў першы прыватны прадзюсарскі цэнтр у краіне. Выдаткі на культуру, нават папсовую — рэдкая рэч сярод беларускіх мільянераў. Імкнучыся адпавядаць густам начальства, звычайна яны з большым імпэтам спансаруюць спартыўныя каманды.

**Ягор Марціновіч**



Вялікая жоўтая машына-пагрузчык — візітоўка «Амкадора».

# Спявак з Жодзіна зрабіў фурор на украінскім тэлеконкурсе

Зала стоячы апладзіравала **Яўгену Літвінковічу**.

29-гадовы Яўген Літвінковіч стаў адкрыццём конкурсу «Украіна мае талент», які трансьлюе тэлеканал СТБ. Украінскае тэлебачанне расказвае пра саліста студыі Жодзінскага гарадскога Дома культуры, што ў сябе на радзіме ён неадназова спрабаваў прабіцца на вялікую сцэну, але пасля чарговага расчаравання вырашыў заняцца бізнэсам. Трымае кавярню.

Год таму Яўген не прайшоў у фінал расійскага конкурсу «Новая хваля». І тым не менш, спявак сёлета бярэ ўдзел у музычным праекце тэлеканала АНТ «Акадэмія талентаў».

А заадно спрабуе свае сілы на ўкраінскім конкурсе. Чацвёрты сезон «Украіна мае талент» можа стаць для яго зорным. Апошні куплет ягонай песні Sweet People многія гледачы віталі стоячы.

Яго незвычайны голас ахоплівае некалькі актаваў.

СП



Яўген Літвінковіч з Ірынай Дарафеевай. Фота са старонкі спевака «УКантакце».

## Што масквічы знаходзяць у Мінску?

**Маскоўскі праграміст**, які пераехаў працаваць у Беларусь: «Думаў, што Мінск прыбіраюць тры разы на дзень».



Сотні тысяч беларусаў выехалі працаваць за мяжу. У Расію, Еўропу ці далёкую Амерыку — беларускія заробкі ў параўнанне не ідуць. Мікіта Мядзведзеў, наадварот, прамяняў Маскву на беларускую сталіцу.

### Кінуў смецце ў бак?

Мікіта — чалавек запатрабаванай прафесіі. Ён высокакваліфікаваны праграміст. Карэнны масквіч, ён пераехаў у Беларусь тры гады таму. На той момант ён быў беспрацоўны, а тут прапанавалі добрае месца.

«Мне, у прынцыпе, Масква надакучыла да таго моманту. Я ўжо хацеў з'ехаць. Там цяжка жыць», — кажа Мікіта.

Першае ўражанне ад Мінска — чысты горад, спакойныя і зычлівыя людзі, шырокія праспекты, адсутнасць затораў. А яшчэ — адчуванне, нібы трапіў у Савецкі Саюз, асабліва моцнае пры наведванні нашых «цумаў» і «гумаў».

«Для мяне гэта было шокам: чысты горад! Цяжка ўявіць. Я думаў, што яго прыбіраюць тры разы на дзень», — кажа Мікіта.

Праўда, потым зразумеў, у чым справа. Неяк ён быў у Смаленску ў кампаніі беларусаў. Да іх падышоў чалавек і кажа: «А вы беларусы». «Як ты здагадаўся?» — пытаюць. «А вы смецце ў бак кідаеце», — адказаў чалавек.

### Дзяўчаты не заганяюцца

Што яшчэ прыемна ўразіла па прыездзе ў Беларусь, дык гэта нізкія ў параўнанні з Масквой цэны амаль на ўсё. «Адчуванне было, як у фільме «Еўратур» [у гэтай маладзёжнай камедыі хлопцы з Амерыкі, маючы ўсяго некалькі даляраў у кішэні, пачуваліся багатырамі ў «беднай» Славаччыне — «НН»].

Яшчэ адзін «бонус» — беларускія дзяўчаты. Прыгожыя і менш заганяюцца пра шмоткі, грошы і тачкі. Дарэчы, з адной такой беларусачкай у Мікіты цяпер сур'ёзныя адносіны.

### «Не ўяўляю, як яны жывуць»

Леташняя дэвальвацыя зменшыла даход Мікіты. Але ў Маскву ён не вярнуўся. Яго здзівіла рэакцыя беларусаў на эканамічны крызіс. Дакладней — яе адсутнасць. «Думаў, народ усё-ткі падымецца», — кажа хлопец. Сам ён дзеля цікаўнасці схадзіў на «маўклівую акцыю».

Прычына, чаму наш народ не «паўстаў», на думку масквіча, вось у чым: «Лукашэнка ў гэтым плане граматна дзейнічае. Ён заўсёды пільнуе, і тых магчымых лідараў, што могуць аб'яднаць людзей, своечасова нейтралізуе».

Узровень жыцця ў Беларусі нізкі, кажа Мікіта. «Не ўяўляю, як яны на гэтыя грошы жывуць. Можа, усе прывыклі. Я так разумею, гэта не першы раз?»

Зрэшты, у расійскай правінцыі, на яго думку, сітуацыя яшчэ горшая. Людзі співаюцца, не хочуць працаваць. Адзіныя, хто нешта робяць — гэта таджыкі ці ўзбекі.

### «Беларускую разумею»

Мікіта ведае ўкраінскую мову, а таму разумее і беларускую. Праўда, яе амаль нідзе не чуваць.

«Інтэлігенцыя мову паважае і часта нават на ёй размаўляе. Але для існуючай улады інтэлігенцыя абсалютна не патрэбная... Памойму, у ніводным інстытуце не выкладаюць па-беларуску», — так тлумачыць моўную праблему хлопец з Масквы.

Нядаўна Мікіта пачаў хадзіць на лекцыі па філасофіі пры Беларускім калегіуме. Праўда, два тыдні адсутнічаў на занятках — адпачываў у Індыі.

З беларускіх гуртоў яму падабаецца «Касіяпея». «Ляпісы», я так разумею, тут забароненыя. Іх я таксама люблю, у Маскве хадзіў на канцэрт», — кажа Мікіта.

У Мінску яго прымаюць за свайго. «Маскоўскага» акцэнта ў хлопца няма, ніякіх непаразуменняў з «мясцовымі» ніколі не ўзнікала.

Цяпер праграмісту Мядзведзеву 28 гадоў. Вяртацца ў Маскву пакуль што не збіраецца. Мінскі камфорт вабіць яго больш за маскоўскія грошы.

Аксана Рудовіч

## Сціісла

### З Гродна ў Мінск можна будзе даехаць экспрэсам за 4 гадзіны

Гэта стане магчымым пасля мадэрнізацыі чыгункі з пракладкай бессутыкавага палатна. У Лідзе ўжо гатовыя распачаць працы. Цяпер цягнік з Гродна ў Мінск едзе 6–7 гадзінаў.

### Польскім ксяндзам у Беларусі падоўжылі візы

Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч паведаміў польскім СМІ, што ўлады Беларусі працягнулі тэрмін дзеяння візаў польскім ксяндзам, якія служаць у краіне, але не сказаў, на які тэрмін. 14 ксяндзам візы падоўжылі на паўгода. Чатыром ксяндзам, да якіх улады мелі прэтэнзіі за служэнне імшы выключна на польскай мове, візы падоўжылі толькі на тры месяцы.

### Частату «Аўтарадыё» аддаюць «Сталіцы»

Нагадаем, што Мінсувязі пасля прэзідэнцкіх выбараў забрала ў «Аўтарадыё» частоты за «распаўсюджванне інфармацыі, якая змяшчае публічныя заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці». У часе выбарчай кампаніі радыё пускала ў эфір ролікі кандыдатаў у прэзідэнты Саннікава і Някляева, дзе тыя заклікалі прыходзіць «на Плошчу».

Такім чынам, «Аўтарадыё» падзяліла лёс «Радыё 101,2», якое вяшчала па-беларуску і было закрыта ў 1996-м. Цяпер на яго хвалі выходзіць станцыя, якая належыць БРСМ.

СП

**Пазітыў**



У мінскім парку.

## Запіс праз інтэрнэт, кансультацыя па скайпе

**Гарадскія паліклінікі** засвойваюць інтэрнэт-тэхналогіі.

Многія з паліклінік маюць уласныя сайты. Тут цяпер можна запісацца да доктара. Калі ў паліклініцы яшчэ няма ўласнай старонкі ў інтэрнэце, то замовіць талончык можна праз спецыялізаваныя агульнагарадскія сайты. Напрыклад, па адрасе info.minsk.by/clinics.

Некаторыя паліклінікі пачалі даваць анлайн-кансультацыі. Для гэтага трэба пазначыць сваё імя і прозвішча, адрас электроннай пошты і запісаць у адмысловае поле свой запыт.

А вось 14-я паліклініка Партызанскага раёна арганізавала праз скайп відэакансультацыю.

Застаецца спадзявацца, што ў хуткім часе мы дагонім Эстонію, дзе можна атрымаць рэцэпт на лекі праз інтэрнэт.

Сямён Печанко

# Адзін дзень экс-палітвязня

Спавядаецца **Алесь Кіркевіч**.

— Трымай бутэрброд.
— Я прасіў з маслам і сырам.
— Я ж спыталася: «З плаўленым сырам?», ты адказаў: «Так»...
— ...

«Не, не буду аспрэчваць, бо пачнецца зноўку: крыкі, скандалы... гэтага ўсяго было ўжо забагата апошнім часам».

Так, мы зараз жывём разам з маці: я, жонка ды маці. Чатырохпакаёвай прафесарскай кватэры нібыта хапае... А якія яшчэ варыянты? Стаць на чаргу як маладая сям’я? Гэта недзе ў адным камплекце з парадамі кшталту: «уладкавацца на завод», «узяцца за розум», «нікуды не лезці»...

Чорная гарбата. Ад кавы прыйшлося адмовіцца — страшэнна баліць пасля галава. Дый якая тут гарбата? Так, кіпень, а не паспеў дапіць, выстыгла — ну яе, у ракавіну. ТАМ была гарбата, там быў рытуал, дзе ўсё мае сэнс: што п’еш, з кім п’еш... Вось сядзеў на днях у кавярні з хлопцам, якому ўвесь час хацелася даць у морду. У выніку са свайго кубка глыткі два зрабіў — пакінуў і выйшаў. Што за здзек? «...Не піце з кім папала!» — вучыў нас, «першаходаў», бывалы татарын з мянушкай «Астрахань» ды набітымі свастыкамі пад кожнай ключыцай: будзеш «чыф ганяць» з малазнаёмым чалавекам, а ў яго рэпутацыя, напрыклад, нячыстая — разганяй пасля, што «па нязнанцы»...

Выходжу з хаты. Пакуль, мама! Жонка, чмок! Бух — замкнуліся металічныя дзверы за спінай. Няўжо цяжка дачакацца, пакуль на агульным калідоры я дайду хаця б... да ліфта? А пакуль яшчэ ліфт прыйдзе? Стаю сабе: углядаюся ў чорную пляму дзвярэй, праз шклаблокі прабіваецца халоднае зімовае святло, а ў пад’ездзе стаіць пах неадрамантаванага смеццеправода, які даводзіць да шалу маіх гасцей, якія трапляюць сюды ўпершыню.



Краіну «Беларусь», дзе адбываецца дзея, варта было б лічыць выдуманай, бо самі насельнікі не вераць у яе існаванне… »

Фота зроблена на шашы Віцебск—Мінск, а 3-й гадзіны ночы, першай ночы пасля вызвалення Кіркевіча. Ён ехаў насустрач жонцы.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Правяраю паштовую скрыню — ці ёсць лісты ад «маіх зэкаў» (хто мне яшчэ можа напісаць, акром зэкаў ды дзядзькі-«афганца», з якім мы праз ліставанне падчас адседкі і пазнаёміліся?). Няма. Нядаўна злавіў сябе на думцы, што мае нядаўнія калегі па «ўніверсітэтах» больш абазнаныя ў палітычных навінах за мяне. Сума пазыкі Беларусі МВФ, дакладныя даты самітаў, прызначэнні ды пасадкі... Так, седзячы, там мы ўсё адсочвалі, збіралі інфармацыю па крупіцах: ну вось жа, ЁН мае абрынуцца на працягу года, гэты курс, гэтыя абяцанкі, пустыя пагрозы — ЯМУ ўжо не вераць, таму і пагрозаў не мусяць баяцца. Мы, дурныя, абмульвалі бакамі шконкі і верылі, што ва ўсім гэтым ёсць вялікі сэнс для краіны, што «беспрэцэдэнтная колькасць палітвязняў» не застанецца незаўважанай, што на месца аднаго стане як мінімум дзесяць, арганізацыі пачнуць разбудоўвацца...

А ўсё аказалася з дакладнасцю да наадварот. І традыцыйны «Марш пераменаў» (што супольнага маюць перамены з традыцыяй?) у тым годзе стаўся нацыянальнай ганьбай: арганізатары зноўку нешта не падзялілі, не дамовіліся, праспалі, а можа паціху запілі... Яны ж не ведалі, дурныя, што мы ў гадзіну «Х» сядзелі ля закратаванага акна ў спецСІЗА і слухалі. Нам падавалася, што па праспекце маршыруюць тысячы, гудуць машыны, нехта надрываецца ў мацюгальнік... А яны сядзелі па хатах, пілі валяр’янку і таксама прыслухоўваліся: ці не ідзе хто па калідоры? Мы верылі, што рубікон перакрочаны, ЁН нас усё адно змушаны будзе выпусціць і мы скажам, усяму свету скажам, на розных мовах аб сваёй «маральнай пазіцыі», «неабходнасці жорсткіх мераў» і г.д. Тыя, хто застаўся на волі, бачылі ўсё гэта не ўпершыню, таму ролі былі распісанымі: нехта пабег за кветкамі, нехта запрасіў журналістаў, нехта абняў ды пацалаваў чарговага палітзэка. Традыцыйна? Чарговага? Так, гэта акурат як з «маршам пераменаў»...

— Алё?
— Прывіт, — як заўжды на ўкраінскі манер, але неяк стомлена і нібыта ў адчаі.
— Што здарылася?
— Нічога.
— Што зноўку?
— Кажу, нічога. Не магу я так, сумна... — наганяе на мяне тугу голас зазвычай эксцэнтрычнай рудой дзяўчыны, якую спецслужбоўцы лічылі ці то маёй каханкай, ці то жонкай (што выклікала смех жонкі рэальнай).

Што я магу ёй зараз параіць: раздрукаваць і расклеіць сто налепак? Правесці бяссонную ноч у пастарунку і пасля бяссонны ад званкоў журналістаў наступны дзень? Кінуць усё, стварыць маладую сям’ю, уладкавацца на фабрыку, стаць у чаргу на кватэру?..
— Трымайся, Алёна!
— Трымаюся. Пакуль.
— Давай.

Віртуальная слухаўка кладзецца на экране старога Siemens-а. Недзе там скончыўся запіс. Слухаюць. Чакаюць. Як можна не звар’яцець ад такой працы, калі ўсё слухаць? Хіба што вар’яцеюць... Можа, п’юць? Пэўна, п’юць... Якая розніца паміж кантралёрам, які заглядае ў камеру кожныя тры хвіліны (згодна правілам спецСІЗА) і службоўцам, які слухае твае тэлефонныя размовы? У першага з часам утвараецца мазоль на пальцы ад пастаяннага адсоўвання завескі на вочку. Другі, пэўна, раней часу глохне ці слепне, чытаючы раздрукоўкі нашых перамоваў, падобныя да п’есаў. Будзе ў старасці хадзіць падслепаваты, а якое-небудзь дзіцё добравыхаванае захоча праз дарогу перавесці ці дапаможа да пад’езда дакульгаць. Яно ж не ведае (дурное!), чаму ён датэрмінова зрок згубіў, чаму паліць на балконе, чаму жонак трох перажыў, бо калі ты штодня глядзіш у бездань, бездань будзе непазбежна набліжацца, пакуль не з’есць цябе без хрумсту і пылу, не пакінуўшы па табе нават слупка дыму, разам з якім звычайна адлятаюць душы апалагалісця.

А мы — нармальныя? Гэта нармальна, наогул, тэлефон адключаць пры кожнай нагодзе? А машыны ў двары запамінаць — нармальна? Белы бус, падаецца, быў з раніцы, гэтая не, таксама не, а вось падазроны «Сітраэн» заведзены стаіць...

Абмінаючы яго, зноўку заходжу ў пад’езд, вынікі маёй дзённай працы знаходзяцца ў срабрыстай скрыначцы памерам з мабільнік, у якой ужо пачынае сядаць батарэя. Нічога, зараз Вова прыйдзе, а пасля я ўжо за рэпартаж вазьмуся — рэдакцыя, канечне, з’есць, бо раней за заўтра не паспею.
— Які ў цябе дом?
— Высокі. У двары адразу за аптэкай.

Хаджу з кута ў кут у сваіх трэніках, ні за што не возьмешся — госць ідзе. Былы барацьбіт, вулічны змагар, душа, песня, слова, цяпер... Хіба журналіст, як і ўсе, а можа будаўнік зноўку? Зараз запытаюся.
— Якая кватэра?
— 27. Шосты паверх.

Як заўжды, кніжку прынёс, адкапаў у сябе. Абрус у клетку. Жонка на стол носіць аладкі, гарбату, нешта салодкае і неістотнае.
— Сталічныя гэтыя...
— Вось-вось, — пасміхаецца.
— Выбары, блін...
— Ага, — бліщчыць вачыма.

«Як мне жыць, сволач, кажы давай, а не вачыма лыпай!»
— ...Ідзі падрамнікі рабіць. Я і сам хачу. Вокны пакуль рабіў, масу задавальнення атрымліваў: працуеш сабе, рукі загружаныя, думкі сабе недзе, пасля вершы файныя атрымліваюцца.
— А зараз пішуцца?
— Не, не пішуцца.

«І мне не пішуцца. Калі асоба, схільная да пісання, выходзіць з турмы, ёй заўжды не пішацца...»
— Не магу я быць прапагандыстам, — меланхалічна працягвае госць, — я ж журналістам наймаўся працаваць, а ён мне з раніцы кажа: «Маеш сказаць так і так, бо я ў фэйсбуку прачытаў...»
— Кажуць, ты пад Талінам дом будуеш? — пераводзіць размову на бытавыя рэйкі жонка.
— Такой байкі аб сабе я яшчэ не чуў... Гэта на офісе вашым так кажуць?

Незаўважна надышоў вечар, ліфт у смярдзючым пад’ездзе працуе больш інтэнсіўна. Госць пакінуў па сабе пару мамчыных бліноў (а скажа, пэўна ж, што сам з’еў, каб не пакрыўдзіць). Кніжкі, камп’ютар, фэйсбук — чарговая зараза... Адчуванне нібыта няма чагосьці. Во — засяроджанасці! Яна недзе там засталася, у камеры, падобнай да труны, у маўклівых зімовых прагулачных дворыках, на нарах перад адбоем... Як яе здабыць зноўку? Сесці? А мо з’ехаць куды?
— Мілая, а ты хочаш дом пад Талінам?
— Не ведаю.
— Што мы тут робім наогул?
— ...
— Чаму мы тут яшчэ жывём, а?
— Бо гэта наша краіна...

«Ах ты, гад, ты ж сам гэта ўціраў сваім аднагодкам, кідаў іх наперад: з азартам яны сядалі на суткі, з усмешкай забіралі дакументы з ВНУ, атрымлівалі па чатыры гады ўзмоцненага рэжыму... А цяпер жонка табе мае тлумачыць аснову асноваў!» Усё слушна, бо гэта мая размова з самім сабой. Бо я ведаю, што жонку сабе абіраў найбольш падобную да самога сябе.
— Пакуль ты мыешся, я раскладу ложак.

Скрып пружынаў, шоргат абшыўкі аб шпалеры. Ёсць час памаліцца. Пстрык запалкі і адбываецца цуд: святло сярод халоднай студзеньскай ночы — займаецца знічка, прынесеная калісьці з акцыі салідарнасці. За ёй вырастае ікона, то бок паштоўка з набору «Беларускі сакральны жывапіс» выдруку пачатку 90-х. Па той бок шыбы гарыць самотны аблвыканкам, падсветку на касцёле ўжо адключылі — у мэтах эканоміі, вецер іграе веццем у мокрым парку, прымушаючы мільгацець зялёныя ды сінія ліхтары.

«Ну што, Госпадзе,
Прабач нам грахі нашыя страшныя,
Злітуйся, вызвалі рэшту «палітычных»,
Як нас калісьці,
І дай паслужыць хаця б яшчэ раз
Гэтаму народу,
Толькі Ты адзін
Ведаеш, як…»

*Гродна*

**Алесь Кіркевіч**

намеснік старшыні «Маладога фронту», гродзенец. Вучыўся на гістфаку Гродзенскага ўніверсітэта. Асуджаны да 4 гадоў зняволення за ўдзел у акцыі 19 снежня. Пакаранне адбываў у наваполацкай калоніі. У калоніі Алесь рабіў будаўнічыя паддоны, а таксама пісаў вершы. Вызвалены ўказам Лукашэнкі ад 1 верасня.

## Беларуская трагедыя

Васіль Жуковіч.

Сілу ад сонца вясна набірае,
Кожнай былінцы свабоду дае.
А Каваленка Сяргей памірае,
Свечкай ахвярна ў няволі згарае
У самыя лепшыя леты свае.

Свет абуджае вясна маладая.
Свет банкетуе, сыцее, пяе.
А чалавек у бядзе галадае,
Ён у пакутах жыццё пакідае,
Ён у адчаі не есць і не п’е.

Мужнага голад смяротны з’ядае —
Скура ды косці, стаў лёгкі,
як сцяг
Той, ім узняты ў зорны прасцяг.
Ён, патрыёт, за яго ж прападае.
Сон не бярэ на калючых касцях!..

Несправядлівасць душа асуджае.
Ён не чакае ад ліха дабра,
Жаль, што жыццё сваё
не ашчаджае,
Толькі ў народзе ратунку чакае!
Што ж той народ?.. Бы вады ў
рот набраў!

Дзе ж Ты, Усявышні?
Дзе зрок Твой нядрэмны,
Усёмагутны, Праўдзівы, Святы?
Хіба не бачыш, дзе судзяць
дарэмна?
Хіба не бачыш, хто ў муках
страшэнных?
Злітуйся, Божа ласкавы,
хоць Ты!

*17–26.03.2012*

# Домрачава: Я абараняю колеры чырвона-зялёнага сцяга

**Праблемы з патронамі** для зборнай усё яшчэ не вырашыліся.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Пасля ўдалага сезона біятланістка Дар'я Домрачава вярнулася ў Беларусь. Яна заваявала два медалі першынства свету, другое месца ў агульным заліку Кубка свету, а таксама два малыя «Крышталыя глобусы» за перамогі ў масстарце і пагоні.

Мініяцюрная Дар'я ззяла ўсмешкай. У руках яна несла абодва «глобусы». Белая блузка і пальчаткі, чорная спадніца, завушніцы з каменьчыкам. Стомы пасля доўгага сезона не адчуваецца, хаця яна, вядома, ёсць. Потым спартсменка прызнаецца, што марыць аб адпачынку.

«З Нойнер прыемна супернічаць і змагацца, — кажа беларуска пра суперніцу-немку. — Кавы з ёй так і не выпілі. Але Лена паабяцала, што будзе ў наступным сезоне наведваць гонкі. Будзе без нас сумаваць, як і мы без яе».

Пытанне, якое хвалявала многіх, што будзе ў наступным сезоне з патронамі для спартсменаў, што трапілі пад эмбарга Еўрасаюза. Нямецкае прадстаўніцтва фінскай кампаніі Lapua не атрымала дазволу выканаць замову.

Сама спартсменка адказваць на гэта не адважылася, пераадрасаваўшы трэнеру Адрыяну Цыбульскаму. «Сітуацыя няпростая. Шмат праблем нам даставіла. Яна яшчэ не вырашаная, але, спадзяюся, хутка вырашыцца. Не магу пакуль сказаць, якія гэта будуць патроны, расійскія ці нейкія яшчэ».

Адказ на пытанне «НН», што адчувае Дар'я, калі бачыць на трыбунах бел-чырвона-белы сцяг, быў для спартсменкі цяжкім. Зноў завісла паўза.

«Заўсёды прыемна адчуваць падтрымку. Я абараняю колеры чырвона-зялёнага сцяга, ён уздымаецца ў гонар маіх перамог. Мне здаецца, што спорт павінен заставацца па-за палітыкай. Думаю, людзі атрымліваюць задавальненне ад выступленняў незалежна ад іх палітычных поглядаў».

**Зміцер Панкавец**

# Ягор Рыбакоў узначаліць «Альфа-радыё»?


**Так Рыбакоў выглядаў, калі працаваў на БТ.**

Былы гендырэктар БТ шэсць гадоў адсядзеў у турме.

У 2005 Ягор Рыбакоў быў асуджаны да 11 гадоў зняволення за атрыманне хабару і выкарыстоўванне службовага становішча. У калоніі Рыбакоў працаваў начальнікам мясцовага тэлеканала.

Пра прызначэнне Рыбакова дырэктарам «Альфа-радыё» паведаміў шэф-рэдактар радыё Андрэй Халадзінскі. Тым не менш, 2 красавіка прызначэнне не адбылося. Супраць Рыбакова выказаліся акцыянеры радыё, бо па рашэнні суда ён не можа займаць кіраўнічыя пасады цягам 5 гадоў пасля вызвалення.

Ягор Рыбакоў пачаў свой імклівы кар'ерны рост з газеты «Магілёўскія ведамасці» пад кіраўніцтвам Рыгора Кісяля (сённяшні дырэктар АНТ). Пасля прэзідэнцкіх выбараў 1994 Рыбакоў узначаліў магілёўскае тэлебачанне, а потым быў прызначаны намеснікам старшыні Белтэлерадыёкампаніі. Менавіта пры ім навіны беларускай тэлевізіі пачалі перадаваць на расейскай мове.

Калі Рыбакоў узначаліць «Альфа-радыё», то гэта будзе не першае памілаванне. У 2009 дырэктарам МАЗа стаў Аляксандр Бароўскі, які перад гэтым адсядзеў за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі.

«Альфа-радыё» — адна з FM-станцый, што вяшчае ў краіне. Радыё забаўляльнае, пра палітыку не вяшчае, беларускай мовы на ім амаль няма.

**Лявон Максюта**

**Фотафакт**

### Сярод магілёўскіх міліцыянтак выбралі «Лэдзі ў пагонах»




Танцы з пітонам, разборка і зборка аўтамата на хуткасць. За галоўны тытул змагаліся 9 дзяўчат-міліцыянтак, якім давялося не толькі прадэманстраваць свае прафесійныя навыкі, але таксама праявіць творчыя здольнасці. Перамагла ў конкурсе эксперт-крыміналіст Кастрычніцкага РАУС Магілёва Святлана Мокіна. Астатнія дзяўчаты таксама не засталіся без узнагарод.



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Міма Танка, альбо Непрачытаны верш

На мінулым тыдні Вадзім Гігін, галоўны спец па рэдагаванні «беларускай думкі» ў патрэбны ўладзе бок, нарадзіў думку, здавалася б, нечаканую. «На мой погляд, — сказаў Гігін, — Танк варты манумента ў Мінску, роўнага помнікам Купалу, Коласу і Багдановічу». Нагадаўшы пра набліжэнне 100-годдзя паэта, Гігін у якасці доказу гэтай бясспрэчнай вартасці выказаўся так: «...Ён жа быў сапраўдным песняром вызваленчай барацьбы народа Заходняй Беларусі».

Апошні раз пра «песняра вызваленчай барацьбы» я чуў недзе ў 6-м ці 7-м класе. Калі адлічыць ад танкаўскага 100-годдзя, атрымаецца 1954 ці 1955 год.

...Нарач, ланцуг высачэзных тапаляў, што збягаюць з высокага ўзгорка да вады, за ім — руіны былога яхт-клуба Пілсудскага, ад якіх нават у хмарны дзень праз бягучыя па вадзе цені аблокаў відно было аж да «сіняга», як тутэйшыя пазначалі колер глыбіні, нарачанскае дно... Ну а далей, на ўзгорку, нават вышэйшым за «пілсудскі» — тры хаціны, яшчэ не пацямнелыя ад часу, моцна ўчапіліся ў наднарачанскую вышыню...

Гэтыя тры хаціны — першае, што я бачыў, прачнуўшыся, праз акенца Мацеевай хаты на ўскрайку Купы. Хата тулілася да самага возера, яно ці не плёскалася ў тое акенца, даручоны праз счарнелае шкло сваё неверагодна сінее святло...

Раз на тыдзень я садзіўся на Мацееў ровар з заезджанымі тоўстымі коламі і пёрся, налягаючы на скрыпучыя педалі, да невялічкай крамы па хлеб міма тых трох хацін, углядаючыся ў жыццё за плотам. Адным на ўсіх, дарэчы. Паміж хатамі плота не было. Вось Танк, нахіліўшыся над нізенькімі дрэўцамі саду, беліць іх вапнай, Куляшоў, прыгладжваючы валасы, чытае на лаўцы

### Відно было аж да «сіняга»

кніжку, прытрымліваючы старонкі ад ветру, а сівы Лынькоў у цяльняшцы нешта майструе ў лодачным рухавіку...

Я так хацеў прачытаць Танку ягоны верш пра Нарач, дзеля чаго вывучыў яго на памяць: «Люблю тваё, Нарач, затокі і тоні...»

Не ўдалося... Не адважыўся... Толькі міма...

Ці не прайшла міма Танка Беларусь?

З уладай і яе намаганнямі зрабіць з песняроў Беларусі песняроў рэжыму ўсё ясна. Гэта яна ўслед папярэднікам з іхняй меліярацыяй, хімізацыяй ды курортнай зонай амаль канчаткова раструшчыла Нарач з наваколлем, ператварыўшы іх у смярдзючую квадрацыклямі «зону» для сафары. Знішчыла, па сутнасці, жывы помнік Паэту, а зараз клапоціцца аб помніку «песняру вызваленчай барацьбы»...

Але чаму антылукашэнкаўская, незалежніцкая Беларусь прайшла міма? Асабліва тая яе частка, якая ўзводзіць платы паміж пакаленнямі і пабальшавіцку трушчыць пад сабой гістарычную глебу, вышукваючы, падобна паталагаанатамам, у волатаў беларускага духу нешта прыкра савецкае, нібыта здрадніцкае... Як быццам у тыя, савецкія часы, у Беларусі панавалі толькі нейкія пачварныя прыблуды, а беларусаў з іх болем і радасцю, стратамі і здабыткамі, з іх мужнасцю і неверагоднай цярплівасцю быццам бы і не было...

...Аднойчы я ўбачыў, як да берага набліжаецца нешта яскрава аранжавае, зусім нязвыклае для нарачанскіх колераў. У невялічкай гумавай лодцы сядзеў светлавалосы хлопчык і ляпаў абедзвюма рукамі па вадзе. «Дай пакатацца!» — узрадаваўся я таму, што не прыйдзецца больш цягаць па пяску цяжкі Мацееў човен. Хлопчык моўчкі адвярнуў ад берага і хуценька заляпаў у бок трох хацін...

Пяць гадоў таму Максімка, а цяпер Максім Яўгенавіч, узгадаў, расказваючы пра бацьку ў адным з інтэрв'ю, што ён завяшчаў «...не называць яго імем ні вуліц, ні ўстаноў. І не ставіць помнікаў, не вешаць мемарыяльных дошак. А на пахаванні не несці ордэнаў...». І пахаваць сябе папрасіў на сціплых вясковых могілках на радзіме.

Нехта можа палічыць, што за гэтым завяшчаннем хаваецца нейкая крыўда на звар'яцелы час. Мне ж здаецца, што ён так любіў Беларусь, да такой глыбіні яе «сіняга», што наўпрост прасіў не перашкаджаць яму ў гэтай любові...

А той непрачытаны верш, дарэчы, напісаны ў 1937-м...

*kamerton_41@mail.ru*

# Топінг ў Смаргоні: слупы замест дрэваў

Наведнікі парку на вуліцы Матросава ў Смаргоні сутыкаюцца з **апакаліптычным відовішчам**.

Замест пышных таполяў з зямлі вытыркаюцца голыя слупы. Такое «добраўпарадкаванне» горада знаходзіць неадназначны водгук у мясцовых жыхароў. Але ўлады кажуць: самі папрасілі.

Каму перашкаджалі дрэвы?

Топінг — гэта абразанне верхняй часткі дрэва да пэўнага ўзроўню, звычайна 4-9 метраў. Далёка не ўсе дрэвы могуць вытрымаць такую радыкальную «стрыжку», бо зразаецца ўся крона. Аднак ЖКГ сцвярджае, што топінг — гэта ці не адзіная магчымасць захаваць, хай і ў сумнеўным выглядзе, дрэвы ў гарадах.

Асабліва гэта датычыць таполяў, якія растуць імкліва і маюць патрэбу ў пастаяннай апрацоўцы кронаў. Калі гэтага не рабіць, то дрэвы пачынаюць развальвацца і пагражаць бяспецы.

У Смаргонскім райвыканкаме кажуць, што «навесці парадак» прасілі самі грамадзяне. Такія просьбы былі дзве. Першая — у снежні. Жанчына прасіла абрэзаць вярбу ля школы №1. Маўляў, дрэва аварыйнае, а там дзеці ходзяць.

Другая скарга прыйшла на электронную пошту райвыканкама. У ёй мясцовы жыхар Крапіўніцкі, які жыве ля сквера на вуліцы Матросава, звяртаецца да дырэктара ЖКГ Івана Рамановіча: «Сквер паступова пераўтвараецца ў нейкі смеццевы пустыр. Частка сквера засаджана таполямі, якія пры вялікіх парывах ветра так і хочуць абрынуцца ў бок дамоў. Просім вас абрэзаць гэтыя дрэвы».

Электроннае пісьмо прыйшло 2 студзеня. І ўжо 6 студзеня просьбу задаволілі. «Ён нам яшчэ і падзякаваў за аператыўную працу. Анекдот!» — кажа Алена Лавянецкая, інжынер вытворча-тэхнічнага аддзела. Жанчына нічога кепскага ў топінгу не бачыць.

«Я цяпер у Бабруйск паехала — стаяць такія самыя пні, яшчэ ніжэйшыя за нашы. Эстэтыка не эстэтыка — я не ведаю. Але на сёння гэта ўжо прыстойна», — кажа Лавянецкая.



Так выглядаюць дрэвы ў смаргонскім парку.

Яна расказала, што дырэктарка школы №1 хваліла работнікаў ЖКГ за падрэзаную вярбу.

«Дзякуй, гаворыць, што вы знялі з мяне вялікую работу. Дзеці ходзяць, я за іх баялася. Адзін просіць, кажа «дзякуй», а другі піша, што дрэнна. Я разумею, што дрэнна. Але будзе налета яно добра. Абрасце дрэва», — кажа жанчына.

Такую думку падзяляе і галоўны інжынер ЖКГ Аляксей Гакуць. Ён прыводзіць прыклад парку па вуліцы Савецкай. Гадоў 8 назад там таксама стаялі «слупкі».

«Цяпер вы нават не заўважыце, што там нешта абразалася», — кажа Гакуць.

«Да нядаўняга часу горад Смаргонь быў «зялёным» горадам. Старажылы ўзгадваюць: раней можна было ў дождж без парасона дайсці пад шатамі дрэваў ад першай школы да касцёла і не змокнуць», — піша журналістка Дар'я Ліс.

«Чысціню», што запанавала ў скверы па вуліцы Матросава, яна параўноўвае з вусцішнасцю Хатыні.

Мы папрасілі патлумачыць сітуацыю карэнную жыхарку Смаргоні Валянціну Салаўёву. Як сказала жанчына, жарсці накаліліся крыху не там.

«Апошнім часам у Смаргоні было высечана шмат дрэваў, а на іх месцы нічога не было пасаджана. Таму любое ўключэнне бензапілы, нават калі гэта тычыцца дэкаратыўнай апрацоўкі, жыхарамі ўспрымаецца нервова».

На думку Валянціны, да дрэваў ставяцца, як да нечага другаснага, што перашкаджае больш важным рэчам. Пабудавалі краму — ссеклі дрэва ля ўвахода.

У выніку раскідзістых дрэваў у горадзе не застаецца. «Часам вяртаюся з горада — слёзы на вачах. Аднаго дрэва няма, другога... Нічога не пасаджана!», — кажа Валянціна.

**Аксана Рудовіч**




Ліпы ў Ашмянах абразалі не да ствала, а бочачкамі. Цяпер яны зноў адрастаюць.

# Колькі насамрэч каштуюць імпартныя рэчы?

Майкі па 27 тысяч і **зімовыя боты па 245 тысяч** рублёў.

Белстат апублікаваў падрабязную статыстыку імпарту замежнай прадукцыі ў студзені 2012. Кожны від тавараў — ад скураных ботаў да корму для сабак — пада-дзены з указаннем аплачанай цаны. «Наша Ніва» звярнула ўвагу на некаторыя цікавыя лічбы. Варта нагадаць, што набыты тавар беларускія прадпрымальнікі мусяць размытніць, давезці да сваёй крамы, устанавіць нацэнку... — і ў выніку атрымаць цану, у некалькі разоў большую за пачатковую.

### Мяса

Калі казаць пра мяса, то за месяц у краіну было імпартавана 5 тысяч тон свініны. Амаль палова — з Польшчы, па 22 000 рублёў за кілаграм.

Замарожанай ялавічыны навезлі 60 тон, прычым амаль усё мяса прыехала ў Беларусь з Літвы. Стартавы кошт кілаграма — 32 000 рублёў.

### Салодкае жыццё

Пяройдзем да садавіны і гародніны. Студзень — зусім неспрыяльны месяц для таго, каб спажываць айчынную прадукцыю, таму беларусы вымушаныя пераплачваць за замежны тавар. Па якім кошце ён прывозіцца ў Беларусь?

Агуркі ехалі да нас у асноўным з Іспаніі. Яны завозіліся ў студзені па 10 700 рублёў за кілаграм.

А вось з іспанскімі памідорамі (па 12 000 рублёў за кілаграм), якія займалі палову рынку, канкуравалі таматы з Турцыі (10 800 рублёў) і з Марока (12 300 рублёў).

Свежы малдаўскі вінаград абыходзіўся імпарцёрам па 4850 рублёў за кілаграм, а польскія яблыкі — па 3400 рублёў.

### Знешні выгляд

Яшчэ адна цікавая катэгорыя — адзенне і абутак. Колькі каштуе кітайскі шырспажыў на мяжы па кожнай катэгорыі, вылічыць няпроста. Напрыклад, у статыстыцы разам ідуць і курткі, і паліто, не даючы магчымасці пралічыць іх асобна. Аднак некаторыя віды адзення ўсё ж ёсць. Напрыклад, майкі і фуфайкі завозяцца па 27 тысяч рублёў за кожную, пераважна з Літвы.

А вось «швэдры, пулаверы, кардыганы» каштуюць у сярэднім 73 тысячы рублёў. Тут у лідарах Расія. Бангладэш і Кітай даганяюць яе толькі супольнымі намаганнямі.

Станікі (перадусім расійскія) каштуюць 11 000 рублёў, а гальштукі — 29 тысяч рублёў (іх завозілі з Польшчы і Кітая).

І пару словаў пра абутак. Пара высокіх кітайскіх скураных ботаў (закрываюць шчыкалатку), у студзені каштавала ў 245 тысяч рублёў.

**Ягор Марціновіч**

# Патрыярх Кірыл: У кватэры пражываюць траюрадныя сёстры

**Дараваць пыл** было б некарэктна, а гадзіннік — гэта мантаж.

Патрыярх Кірыл прызнаў, што валодае кватэрай у Доме на набярэжнай у Маскве. Гэта здарылася ў эфіры «Вестак FM».

У Расіі набраў сілу скандал, звязаны з судовым пазовам на 20 млн рублёў, які прапісаная ў кватэры патрыярха жанчына прад'явіла ўладальніку жылля на суседнім паверсе — былому міністру аховы здароўя, хірургу-кардыёлагу, а цяпер святару Юрыю Шаўчэнку. На думку жанчыны, пыл, які падняўся ў выніку рамонту ў кватэры Шаўчэнкі, нанёс шматмільённую шкоду бібліятэцы патрыярха.

Гэтая гісторыя выклікала вялікі рэзананс. Ставіліся пытанні, ці не парушае наяўнасць кватэры коштам 1,5 мільёна даляраў і прапіска ў ёй жанчыны тых манаскіх зарокаў, якія патрыярх даваў. Прадстаўнікі патрыярхіі раней называлі сітуацыю вакол кватэры прыватным жыццём патрыярха, а скандал — вынікам «чорных» піяртэхналогій.

Па выніках гутаркі з патрыярхам Салаўёў паведаміў, што ў кватэры, якая апынулася ў эпіцэнтры скандалу, пражываюць 2 траюрадныя сястры Кірыла. Па словах журналіста, ён задаў патрыярху Кірылу пытанне, «чаму нельга было дараваць» суседзям. Як адзначыў Салаўёў, патрыярх растлумачыў, што «такі варыянт заўсёды быў, але гэта таксама было б некарэктна».

Сярод іншага, патрыярх заявіў, што гадзіннік у яго на руцэ, зняты ўкраінскімі фатографамі, быў фотамантажом. Што ён сапраўды валодае такім гадзіннікам, яму яго падарылі, але ён яго ніколі не надзяваў

**Сяргей Гезгала**

# Любімага хакеіста Лукашэнкі затрымалі, але адпусцілі?

**З’явілася інфармацыя пра затрыманне Паўла Белага, але ён аб’явіўся на чарговай гульні прэзідэнцкай каманды.**

Інфармацыю пра затрыманне нападаючага прэзідэнцкага хакейнага клуба Паўла Белага са спасылкамі на свае крыніцы распаўсюдзілі на мінулым тыдні партал Tut.by і сайт «Беларускі партызан». «Бізнэсовец быў арыштаваны ў Мінску сярод белага дня ў сваім офісе супрацоўнікамі КДБ пры падтрымцы байцоў атрада «Альфа». Яго абвінавачваюць у адмыванні грошай і нелегальным пераводзе за мяжу $6 мільёнаў», — напісаў «Беларускі партызан» 28 сакавіка. Як сцвярджалі крыніцы інтэрнэт-рэсурса, «некаторы час таму Павел Белы пасварыўся з сынам прэзідэнта Віктарам, паміж імі нібыта адбылася бойка.



Пасля гэтага праверкай дзейнасці бізнэсоўца заняўся КДБ».

У КДБ гэтыя звесткі не каментуюць. А ў Следчым камітэце паведамілі, што іх ведамства крымінальную справу ў дачыненні да 31-гадовага Белага не заводзіла.

Між тым, 31 сакавіка Белы выйшаў на лёд у другім паўфінале спаборніцтваў па хакеі на прызы прэзідэнцкага спартовага клуба. Каманда Лукашэнкі прымала каманду Брэсцкай вобласці. Белы нават закінуў тры шайбы, гуляючы разам з Лукашэнкам.

Пасля гэтага «Беларускі партызан» напісаў, што ўладальніка будаўнічага бізнэсу праз тры дні выпусцілі на свабоду, бо не знайшлі складу злачынства.

**КМ**





СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Што пабудаваў Павел Белы**

Павел Белы працуе намеснікам генеральнага дырэктара групы кампаній «Тапас», створанай у 2001. Асноўны профіль кампаніі — элітнае жыллё. У прыватнасці, «Тапас» атрымаў месца пад будаўніцтва трох комплексаў па вуліцах Язмінавай, Парніковай і Філімонава, проста за Нацыянальнай бібліятэкай. Гэты раён называюць адной з мінскіх «рублёвак». Тут будуюцца малапавярховыя дамы, квадратны метр у якіх каштуе $2000.

Другая «кропка» «Тапаса» ў Мінску — Камароўскі рынак. Тут кампанія мае гандлёвы цэнтр «Імпульс», аднак неўзабаве істотна пашырыць свае ўладанні. Адміністрацыйны будынак плошчай 1500 м² паміж рынкам і «Імпульсам» мае быць перабудаваны ў яшчэ адзін гандлёвы цэнтр у найбліжэйшыя месяцы.

Апроч таго, «Тапас» будаваў жылы шматпавярховік па вуліцы Кнорына, а цяпер перарабляе пад офісы гістарычны будынак на рагу Гарадскога Вала і вуліцы Рэвалюцыйнай.

## Сціслa

**Затрыманы кіраўнік Юдэйскага рэлігійнага аб’яднання**

Юрыя Дорна вінавацяць у атрыманні хабару. Паводле следства, Дорн спрабаваў атрымаць $13 тысяч узнагароды за заключэнне дамовы арэнды нежылых памяшканняў, якія належаць аб’яднанню. Падставай жа для затрымання сталі «абураныя сігналы ад сяброў аб’яднання, якія выявілі, што Дорн распараджаецца грамадскай маёмасцю як асабістай уласнасцю».

**Катастрофа верталёта застаецца загадкай**

Спецкамісія не змагла высвеціць прычыны катастрофы верталёта «Экурэй», што адбылася 20 кастрычніка 2011 ля в. Вілейты Пастаўскага раёна.

**Эксгібіцыяністы сваволяць**

У Гродне 30-гадовага мужчыну затрымалі па падазрэнні ў здзяйсненні актаў эксгібіцыянізму. Заведзена крымінальная справа. Падазраваны жанаты, працуе ў адным з гіпермаркетаў горада. Раней гродзенскія міліцыянты затрымалі 52-гадовага мужчыну, які праводзіў «дэманстрацыі» ў грамадскім транспарце. Паводле мясцовых праваахоўнікаў, з пачатку года гэта пяты такі выпадак.

**Разлічыўся сувенірнымі еўра**

Хлопец знайшоў аб’яву мінчанкі аб продажы электронных гошай WebMoney ў інтэрнэце. Паабяцаў заплаціць ёй за 3920 wmz 3 тыс. еўра і Br160 тыс. На сустрэчу прыйшоў ягоны прыяцель. Паказаў дзяўчыне некалькі купюр па 500 еўра. Тая назвала код пратэкцыі здзелкі. Купец па тэлефоне ўпэўніўся ў яе завяршэнні, перадаў грошы і сышоў. І тады дзяўчына ўбачыла, што купюры сувенірныя. Міліцыя затрымала махляроў.

**СП**



# П’яны на «Вольве» забіў жанчыну

**а потым весяліўся ў машыне, уключыўшы магнітолу.**

Жахлівы выпадак адбыўся ў Крэве Смаргонскага раёна. У ноч на 1 красавіка на дарозе Мінск — Вільня «Вольва XC 90» выехала на сустрэчку. Па ёй акурат ехала жыхарка сталіцы. На сваім «Мерсэдэсе C220» яна сустракала сяброў на мяжы.

Сутыкненне адбылася на роўнай дарозе. Удар быў такой сілы, што ад «Мерсэдэса» нічога не засталося. 32-гадовую жанчыну выратаваць не ўдалося.

Пасажыр «Мерсэдэса», які сядзеў на пярэднім сядзенні, быў прышпілены і ў аварыі нейкім цудам абышоўся траўмай рукі. Дзяўчыне на заднім сядзенні разбіла галаву. А вось кіроўцу сплюшчыла — удар прыйшоўся на яе бок.

Кіроўца «Вольвы» паводзіў сябе неадэкватна. Ён хадзіў з пляшкай піва па дарозе і пытаў ва ўсіх, куды знік «ягоны кіроўца». Маўляў, ён усяго толькі пасажыр. Потым ён замкнуўся ў аўто, сеў на пасажырскае сядзенне і некалькі разоў паўтараў пытанне пра «свайго кіроўцу». А пасля і ўвогуле ўключыў музыку. Пазней супрацоўнікі ДАІ ацанілі ягоны стан як «алкагольная кома». Па іх словах, вінойнік аварыі, які сам у выніку не атрымаў ніводнай драпіны, не перажываў. Ён весяліўся, паказваў непрыстойныя жэсты.

Аказалася, што гэты 54-гадовы мінчук усяго за некалькі дзён да здарэння вызваліўся з турмы, куды патрапіў акурат за кіраванне аўто ў нецвярозым стане. Па гэтым артыкуле яго судзілі двойчы. Акрамя тэрмінага зняволення яму прадпісалі прымусовае лячэнне ад алкагалізму. Да 2016 года ў мужчыны забралі правы кіравання.

Трагедыі па віне нецвярозых кіроўцаў здараюцца рэгулярна. Так, 19 сакавіка пад Смалявічамі адзін такі збіў насмерць дзвюх студэнтак. 33-гадовы вінойнік аварыі неаднаразова прыцягваўся да адказнасці па лініі ДАІ і міліцыі. Правы ў яго забралі, на момант здарэння адбываў пакаранне ва ўстанове адкрытага тыпу.

**Сямён Печанко**




GAIGRODNO.BY

# Каранацыя без каралёў

**«Ляпісам» пабаяліся даць «Рок-карону». Гледачы адказалі нагамі.**

«Рок-каранацыя-2011», традыцыйнае падвядзенне музычных вынікаў года, прайшла 31 сакавіка ў Маладзечне. Месца правядзення — гэта быў галоўны яе сюрпрыз, бо іншых інтрыгаў ад «Каранацыі» ніхто не чакаў. Бальшыня рок-зорак — у «чорных спісах». Напярэдадні ад удзелу адмовіўся і заяўлены раней Кулінковіч. Пасля таго як 30 сакавіка адмяніўся канцэрт «Нейра Дзюбеля» ў Мінску, ён вырашыў не рызыкаваць «Каранацыяй».

У выніку цырымонія ўганаравання выйшла куцая. На сцэну ўсяго на дзве песні выйшаў магілёўскі гурт Akute, пасля — ZM99, а скончылі першую частку хэві-металісты Znich. Яны гралі за сябе і за Drum Extasy, бо апошнія не змаглі дабрацца да Маладзечна праз паломку машыны.

«Рок-каранацыя» ішла нібы на хуткай перамотцы — адспявау першы гурт, аб'явілі трох намінантаў, хуценька адвыступаў другі — а пасля антракту згадалі і ўсіх астатніх. Нагадвала «разагрэў» перад выступам J_Mors, які мусіў іграць у другім аддзяленні.

Выканаўцам года быў прызнаны гурт Аляксандра Памідорава Pomidor/off. Ён жа атрымаў «малую» рок-карону за найлепшую песню года — «Дым». Іншыя ўзнагароды размеркаваліся наступным чынам. «Прарыў года» — гурт Akute. «Традыцыі і сучаснасць» — «Зніч». «Альбом года» — «Зімачка» гурта «Тройца». «Вернасць традыцыям» — Drum Extasy. «Найлепшы поп-рок-гурт года» — J_Mors. Тытул рок-князёўны атрымала Зоя Сахончык, вакалістка гурта «ЗМ99». У намінацыі «Падзея года» рок-карону атрымала дырэктарка Музея народнай архітэктуры і побыту ў Строчыцах Святлана Лакотка — за арганізацыю фэсту «Камяніца».

«Рок-каранацыю» цяжка ўявіць без музыкаў, якія трапілі ў «чорны спіс», але менавіта такой стала «Карона-2011» — без Вольскага, Варашкевіча, «Ляпісаў». Што цікава, «Ляпісы» не атрымалі ніводнай узнагароды, хаця 2011 год шчыра можна назваць годам Міхалка і кампаніі.

«Дым» Памідорава, канечне, — выдатная песня, але ў мабільніках у людзей іграюць іншыя — «Грай» і «Не быць скотам» забароненага «Ляпіса Трубяцкога».

«У 2009, калі тут «Ляпісы» былі, дык у залу трапіць было немагчыма», — успамінала адна з супрацоўніц Палаца. Сёлета ў зале, разлічанай на 820 чалавек, сабралася ўсяго 300 слухачоў. Некаторыя прыйшлі проста як-небудзь разнастаіць суботні вечар. А бальшыня — паслухаць J_Mors.



Памідораў на ўручэнне не прыйшоў »

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Пад першыя ж акорды «Майго сонца» моладзь ускочыла і пачала танчыць у праходах і ля сцэны. Пугач размаўляў з залай па-беларуску, і зала хорам спявала менавіта беларускамоўны варыянт песні «Глядзі». J_Mors нібыта адыграў за мінулыя «Каранацыі», калі адмавіўся выходзіць на сцэну, зглядзеўшы ў зале Аляксандра Мілінкевіча.

Вось такая каранацыя ў зале, запоўненай на трацiну. Не тое каб дыягназ, хутчэй намёк, што, магчыма, варта ўзяць паўзу і дачакацца часоў, калі «Ляпісы» ізноў прыедуць у Маладзечна разам з Вольскім, Кулінковічам і іншымі. Калі знікнуць «чорныя спісы» і музыкам не давядзецца сваёй адсутнасцю ратаваць мерапрыемства.

Дарэчы, і лаўрэат галоўнай прэміі Аляксандр Памідораў на цырымоніі не з'явіўся. Ён лічыць, што «Каранацыя» згубіла сэнс без найлепшых гуртоў.

**Юрась Ускоў, Маладзечна—Мінск**

## Выстава «Пагоня» — у сядзібе Партыі БНФ



ЗМІЦЕР ТРАЯНОВІЧ, ЗА ВОЛЮ

**Да 11 красавіка ў памяшканні новай Сядзібы БНФ (Чарнышэўскага, 3) працуе выстава мастацкай суполкі «Пагоня». У экспазіцыі — 24 творы жывапісу і графікі сяброў творчай суполкі «Пагоня»: Алеся Мары, Генадзя Драздова, Уладзіміра Крукоўскага, Алеся Шатэрніка.**

**СМ**

## Сцісла

### Сустрэча з Кулінковічам

Творчая сустрэча з лідарам «Нейра Дзюбеля» пройдзе 6 красавіка на ўправе БНФ (Чарнышэўскага, 3). У праграме — адказы на пытанні, конкурсы, дыскусія на актуальныя праблемы беларускай рок-музыкі і невялічкі акустычны выступ.

### У Мінску з'явіўся помнік беларускай княгіні

Помнік святой праведнай Соф'і Слуцкай быў адкрыты 31 сакавіка на тэрыторыі аднайменнага праваслаўнага прыхода ў Мінску (раён пл. Казінца ў Курасоўшчыне). Ва ўрачыстасці бралі ўдзел міністр культуры Павал Латушка і Мітрапаліт Філарэт. Соф'я Слуцкая (1585–1612) — апошняя прадстаўніца роду Алелькавічаў-Слуцкіх, жонка Януша Радзівіла. Апекавалася праваслаўем у ВКЛ. Шанаваць яе сталі адразу пасля смерці, аднак кананізаваная Соф'я Слуцкая была толькі ў 1984. Яе мошчы захоўваюцца ў Свята-Духавым саборы ў Мінску.

### Кудзіненка звольніўся з «Беларусьфільма»

Гендырэктар «Беларусьфільма» Алег Сільвановіч паведаміў, што не працягнуты кантракт з Андрэем Кудзіненкам. У паслужным спісе рэжысёра 5 поўнаметражных фільмаў. Найбольш вядомыя яго працы — «Акупацыя. Містэрыі» (2003), «Розыгрыш» (2008) і «Масакра» (2010). Апошнюю карціну рэжысёр зняў на «Беларусьфільме», куды яго запрасілі незадоўга да гэтага. Таксама не працягнуты кантракт з вядомай аніматаркай Ірынай Кадзюковай. Гэта звязваюць са скарачэннем фінансавання на кінавытворчасць.

### У мастака Аляксея Марачкіна памерла жонка

Яшчэ 3 красавіка Ірына Марачкіна разам з мужам была на прагулцы. Калі яны вярнуліся дахаты, ёй стала дрэнна... Ірына памерла літаральна на руках у мужа. Пахаваюць яе ў роднай вёсцы Барсукі (Шаркаўшчынскі раён). Рэдакцыя «Нашай Нівы» глыбока смуткуе разам з мастаком і яго роднымі з прычыны цяжкай страты.

**СМ**

## Маёмасць Каліноўскага прадавалі з аўкцыёну

**Валянцін Голубеў знайшоў у віленскім архіве ўнікальныя дакументы.**

Амаль выпадкова гісторык знайшоў дакументы, датычныя двух знакамітых паўстанцаў — Кастуся Каліноўскага і Якуба Ясінскага.



«Гэту паперу ніхто не трымаў у руках ад 1864, калі яна была складзеная. Гэта «Справа аб продажы з аўкцыёну рухомай маёмасці пакаранага смерцю палітычнага злачынца Каліноўскага». Яна праходзіла праз тагачасны Дэпартамент маёмасці, — кажа Голубеў. — Там ідзе пералік рэчаў, якія былі канфіскаваныя ў Каліноўскага: сталы, шклянкі... Апошнім пунктам ідзе «срэбраная лыжка варшаўскай працы». Рэчы захоўваліся ў віленскай гімназіі, але яе дырэктар Станкевіч скардзіўся, што сталы займаюць шмат месца, і іх вырашылі прадаць з аўкцыёну».

У архіве знайшлася інфармацыя і пра далейшы лёс некаторых рэчаў. Напрыклад, «столік шахматны, а трох нагах» быў прададзены нейкаму пану Слабодкеру за два рублі. Тым не менш, судовы прыстаў вырашыў, што шахматны столік і ў пастарунку рэч патрэбная. Столік у Слабодкера сканфіскавалі, і грошы за яго не вярнулі. Пакрыўджаны пакупнік запатрабаваў аддаць альбо столік, альбо два рублі. У выніку два рублі вярнулі, але пасля прыстаў запатрабаваў, каб іх пастарунку кампенсавала кіраўніцтва.

«Праз увесь дакумент Каліноўскі фігуруе як «палітычны злачынца Каліноўскі», — адзначае Голубеў, — але на апошняй старонцы згадваецца ягонае поўнае імя — гаворка ідзе пра маёмасць Канстанціна Каліноўскага. Такім чынам, знікаюць спрэчкі вакол таго, што Кастусь — гэта псеўданім. Калі ў судовым дакуменце пазначана менавіта «Канстанцін Каліноўскі», можна ўпэўнена казаць, што гэта сапраўднае імя».

Таксама гісторык адшукаў дакумент з подпісам Якуба Ясінскага. Адносіцца папера да канца XVIII ст., і гаворка ў ёй ідзе пра віленскую школу інжынерыі, дзе распрацоўваўся праект асушэння Палесся з будаўніцтвам канала ад Брэста да Магілёва і Гомеля. У 1792 вайсковы інжынер Ясінскі, будучы касцюшковец і галоўнакамандуючы Літоўскім паўстанцкім войскам, быў накіраваны рэвізорам на будову «Каралеўскага» канала, які злучаў Піну і Мухавец. Відаць, дакумент адносіцца да таго ж перыяду.

«Расійская дзяржава імкнулася цалкам знішчаць усё, што тычылася «палітычных злачынцаў». Таму любы дакумент, які захаваўся, — гэта сапраўдны скарб», — кажа гісторык.

**ЮУ**

# Дзе ўпадзе кітайскі цмок?

Канфлікт у вярхах у Кітаі, адстаўка мааіста Бо Сілая выклікалі пытанні: **як доўга яшчэ** Кітай захавае стабільнасць перад непазбежным «крызісам росту»?




BELRADIO.FM

Акцыя супраць высечкі парку 40-годдзя Кастрычніка, на месцы якога збудуюць гатэль «Пекін».

**Тавараабарот Польшчы з Кітаем у 4,5 разу большы, чым у нас**

«Лукашэнкаўскія» чыноўнікі паўтараюць мантру аб «стратэгічным партнёрстве паміж Кітаем і Беларуссю». Ці ёсць у беларуска-кітайскіх адносінах месца для «стратэгічнага партнёрства», і які сэнс гэтыя словы маюць для нашай краіны?

Кітай як сусветная супердзяржава шчыльна развівае супрацоўніцтва з усім светам. У тым ліку з краінамі нашага рэгіёна. Напрыклад, тавараабарот суседняй Польшчы з Кітаем амаль 13 мільярдаў даляраў. Наш у 4,5 разу меншы (3 мільярды), што не замінае Лукашэнку ганарыцца асаблівымі стасункамі з Кітаем. У Польшчы сувымерныя адносіны з Кітаем ніхто не лічыць асаблівымі.

Кітай слаба зацікаўлены Беларуссю, і прычыны тут дзве.

**Замежны гандаль таварамі і паслугамі Рэспублікі Беларусь з Кітаем (у мільёнах даляраў ЗША)**

| Год | Сальда |
|---|---|
| 2005 | 148 |
| 2006 | - 156 |
| 2007 | - 311 |
| 2008 | - 839 |
| 2009 | - 941 |
| 2010 | - 1273 |
| 2011 | - 1617 |

Крыніца: сайт беларускага Міністэрства замежных спраў.

Па-першае, Беларусь як неправавая дзяржава, папулісцкая дыктатура — зусім не прынадны кавалак для інвестыцый.

Па-другое, Кітай не патрабуе нейкай дапамогі на міжнароднай арэне ад Беларусі.

Сёння Кітай здольны на роўных размаўляць нават з ЗША, таму падтрымка Кітая з беларускага боку больш патрэбная Лукашэнку, чым самому Кітаю.

Аб’яднаўчым момантам краін з’яўляецца аўтарытарны лад кіравання.

Але нават такое палітычнае падабенства не спрыяе развіццю двухбаковых стасункаў на больш якасным узроўні — апошні раз кіраўнік Кітайскай Народнай Рэспублікі быў у Беларусі ў далёкім 2001 годзе, але затое Лукашэнка быў у Кітаі ўжо шматкроць. Гэта добра паказвае, каму гэтыя дачыненні больш патрэбныя.

І гэта нягледзячы на адмоўнае сальда, якое ў 2011-м склала больш за 1,5 мільярда даляраў.

Палова беларускага экспарту ў Кітай — гэта сыравіна, калійныя угнаенні, яшчэ 25% — капралактам.

Кітай слаба зацікаўлены беларускай прадукцыяй. Бо і сам займаецца вытворчасцю тых жа прадуктаў і той жа якасці.

Наогул Кітай цяжка акрэсліць лёгкім партнёрам. Калі кітайскія інвестары і бяруцца за фінансаванне будаўнічых праектаў у Беларусі, то вымагаюць, каб участкі для іх будаўніцтва выдаваліся бясплатна.

Але кітайскія інвестыцыі для сённяшніх беларускіх уладаў неабходныя па простай прычыне — іншых інвестыцый проста няма. Акрамя расіян, бізнэс практычна не ідзе ў лукашэнкаўскую Беларусь.

Згодна з тэхнічна-эканамічным абгрунтаваннем, на будаўніцтва кітайска-беларускага індустрыяльнага парка ў Беларусь прыедзе ажно 600 тысяч кітайцаў. Цяжка сабе ўявіць, што ўжо бліжэйшым часам больш чым 5 працэнтаў жыхароў Беларусі будуць складаць кітайцы. Невядома, якім чынам рэжым Лукашэнкі будзе асіміляваць такую колькасць новых жыхароў і якія наступствы гэта будзе мець для беларускага грамадства.

Варта ўзгадаць, што ў 2009-м, у часы «накручвання» беларускай эканомікі, улады прасілі крэдыты таксама і ў Паднябеснай. Кітай крэдыт даў, але толькі пры ўмове, што на гэтыя крэдыты будуць набытыя кітайскія тавары.

Нарэшце, Кітай стаіць перад перспектывай непазбежнага эканамічнага, а разам з ім і палітычнага «крызісу росту». Эканамісты прадказваюць запавольванне тэмпаў развіцця і звязаны з гэтым усплёск сацыяльнай напружанасці. Перавагі «нізкага старту» вычэрпваюцца, а людскія рэсурсы патрабуюць іншага стаўлення да сябе. Гэта таксама непазбежна адаб’ецца на двухбаковых праектах.

Найлепшым выйсцем было б паралельнае супрацоўніцтва з кімсьці іншым. Але нехта іншы патрабуе вызвалення палітвязняў і выканання еўрапейскіх правілаў жыцця.

**Рыгор Астапеня**

**Кітай передумаў інвеставаць у аэрапорт «Мінск-2»**

Маштабная рэканструкцыя адкладаецца на нявызначаны тэрмін.

Паводле інфармацыі сайта Naviny.by, адна з найбуйнейшых інвестыцыйных задумаў у гісторыі Беларусі не будзе рэалізавана. Меркавалася пабудаваць там новы пасажырскі тэрмінал і якасную ўзлётную паласу, якая дазваляла б прымаць нават цяжкія самалёты (напрыклад, аэробус А-380).

Аднак праект застаецца на паперы. Беларускі бок і кітайская кампанія «Віэкдаклмаш», якая паўтара года таму была абраная генпадрадчыкам рэканструкцыі аэрапорта, не змаглі дамовіцца аб кошце рэалізацыі праекта. У дамове ён быў ацэнены ў $600 мільёнаў. Аднак пасля кітайцы паведамілі, што ацэньваюць інвестыцыйны праект больш як у $1 мільярд.

# Беларуская глыбіня. **Чалавек сцяга**

Піша **Павел Севярынец**.

*Калі ж тленне гэтае апранецца ў нятленнасць*
*І смяротнае гэтае апранецца ў несмяротнасць,*
*Тады збудзецца слова напісанае:*
*«Паглынута смерць перамогаю».*
*І да Каранфянаў, 15:54.*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Пасля сарака дзён галадоўкі з чалавека пачынае сыходзіць жыццё. Тонкае на прасвет цела, з якога разам з наедкам знікае ўсё набытае, трапечацца па хадзе на касцях, бы сцяг на тронках, — і застаецца толькі сутнасць. Тое, чым чалавек ёсць.

Вось чаму Ісус сорак дзён нічога не еў, каб вытрымаць д’яблавы спакусы.

А беларуса Сяргея Каваленку, які галадае на смерць за бел-чырвона-белы сцяг і волю, вязуць у вар’ятню.

«Там, на самым версе ёлкі, калі я прымацаваў вуду і адпусціў вялікі сцяг, я адчуў, як мая душа аддзялілася ад цела». Так Каваленка расказвае пра той самы дзень, свята Нараджэння Хрыстова.

Сцяг у Віцебску быў феерычны. Увесь год аблвыканкам збіраў з раёнаў сродкі на ўпарадкаванне Плошчы Перамогі, найвялікшай у краіне. На Новы год тут усталявалі самую вялікую ёлку ў Беларусі. Эх, ёсць чым ганарыцца!.. І вось 7 студзеня, на плошчы святочны канцэрт, і сярод белага дня, апоўдні бялявы, спартовага целаскладу хлопец перасякае брук, сігае за плот, па-альпіністку ўзбіраецца на 35-метровую вышыню.

І найвялікшая ў краіне плошча ўмомант ператвараецца з плошчы савецкай перамогі ў пляц перамогі беларускай.

Зараз Каваленка бледны-бледны ад голаду. Усё, што засталося ад моцнага, бялявага нашчадка колішняга вялікалітоўскага каваля, крутаскулага, з масіўнай сківаццай сапраўднага байца, героя з горада Альгерда, Шагала, Мірона — палатніна белага цела і кроў, у якую гвалтам колюць глюкозу.

Чалавек-сцяг ператвараецца ў чалавека-смерць.

Тут, у камендзе, Каваленку часам блытаюць з Кавалёвым — ну, гэты, як яго, з Віцебска, каторага расстралялі.... І, разабраўшыся, спачуваюць як свайму брату-«хіміку»: правёў сына ў Лядовы палац пасля 19.00 — парушэнне і ў турму. Таго, хто гатовы аддаць жыццё за бел-чырвона-белы сцяг, паважаюць. Але не разумеюць.

А ці разумеем мы?

Тое, што Каваленка памірае пры нашай агульнай млявасці да ягонага жыцця, — гэта нацыянальная ганьба. Гісторыя Чалавека-сцяга, а гэта, паверце, ужо самая сапраўдная беларуская гісторыя — сённяшні адказ на пытанне: ці верым? Ці можам? Ці пераможам?

Бо насамрэч наш бел-чырвона-белы сцяг — гэта і ёсць самы ясны на свеце сімвал перамогі жыцця над смерцю. Даўгая льняная палатніна, у якую загортвалі цела памерлага ў Палесціне. Белая з крывавай паласою.

Хрыстос паміраў за нас — і па Уваскрасенні пакінуў нам бел-чырвона-белы сцяг як знак Сваёй перамогі. Мы пазнаём яго ў штандарах хрысціянскіх краінаў — Англіі, Швейцарыі, скандынаваў, Польшчы, Грузіі, у бел-чырвона-белых стужках патрыярхаў і нават на гербе РПЦ. Ад белых, чырвоных і белых хваляў сэрца захлынаецца святам, пяшчотай і воляй.

І вось у Вялікі Пост, у тыднях цярпення і пакуты, расцятая на турэмных прасцінах, памірае душа Сяргея Каваленкі.

Мы блытаемся ў сеціве, спрабуем вырвацца і ўвесь час тыцкаемся ў тое, што паміраць за Беларусь — дарма, а жыць дзеля яе немагчыма. Наракаюць: Каваленка занадта рэзкі, няправільна сябе паводзіць, не слухае ані родных, ані кіраўніцтва сваёй партыі, і ўвогуле, самагубства — грэх.... Але мы не маем права асуджаць яго. Толькі на волі можна спрачацца з Сяргеем, пераконваць, даводзіць. А зараз адзіна магчымы спосаб дзеяння для нас, тых, за каго і памірае Каваленка — ціснуць на рэжым, а не на Сяргея. Даць Чалавеку-сцягу годна з гэтай смяротнай галадоўкі выйсці.

## Ці хоча жыць Каваленка?

Ці хоча жыць Каваленка, бацька дваіх дзяцей, муж, беларускі патрыёт? Канечне, хоча.

У свой час, галадуючы больш як 50 дзён, Аляксандр Казулін дамогся таго, каб беларускае пытанне было вынесена на разгляд Рады Бяспекі ААН. Дзеля жыцця беларуса адна звышдзяржава — ЗША — паставіла на парадак дня тэму Беларусі, а іншая ядзерная дзяржава — Расія — была вымушаная гэты разгляд блакаваць.

Дзякуй Богу — Казулін застаўся жывы.

Глыбокі беларускі супраціў заўжды адчайна ахвярны. Пад кропельніцай, прывязаны да ложка, паміж жалезнымі дзвярыма з вочкам і закратаваным небам пакутліва і балюча Каваленка аддае сябе. Па кроплі — кожнаму з нас. І цяпер кожны дзень жыццё Каваленкі мусіць стаць днём бел-чырвона-белага сцяга. Хаця б аднаго сцяга штодня.

Думаю, Каваленка даможацца выніку, вартага галадоўкі не на жыццё, а на смерць. І будзе жыць.

І тады ў светлыя велікодныя дні і для яго самога, і для кожнага з нас стане трошкі ясней, як паміраў на крыжы і як уваскрос пад бел-чырвона-белым сцягам, каб жылі мы, Сам Гаспад Бог.

*Куплін*

# Нельга хаваць злачынствы партызанаў за «супрацівам фашызму»

**Адказ на артыкул** Сяргея Ваганава «Невядомая гісторыя».

У «НН» ад 7 сакавіка 2012 быў змешчаны артыкул Сяргея Ваганава «Невядомая гісторыя». Ён настолькі мяне закрануў, што я проста не мог пакінуць яго без увагі.

Па-першае, трэба адзначыць зняважлівы і нават абразлівы тон артыкула Сяргея Ваганава. Тым больш што яго «праведны» савецка-«патрыятычны» гнеў скіраваны супраць Анатоля Тараса — чалавека, які выдае кніжную серыю «Невядомая гісторыя», дзе раскрываюцца балючыя і знакавыя для беларусаў гістарычныя падзеі.

Што ж прымусіла Сяргея Ваганава абрынуцца ў найгоршых савецкіх традыцыях на Анатоля Тараса? Нагодай стала кніжка серыі аўтарства Сяргея Захарэвіча «Партизаны СССР. От мифов к реальности».

Спадару Ваганаву не падабаецца, што аўтар ставіць пад сумнеў гіпербалізаваную савецкімі ідэолагамі ролю партызанскага руху ў барацьбе з нямецкай акупацыяй. Не падабаецца Ваганаву і горкая праўда пра зверствы партызанаў, рабаўніцтва мірнага насельніцтва, амаральныя паводзіны і г.д. У сваёй аргументацыі Ваганаў смела ідзе на падмену паняццяў. Так, ён не згодны з высновамі аўтара, што так званая рэйкавая вайна была «тыповым савецкім ашуканствам». І як доказ сваёй праваты расказвае шчымлівую гісторыю пра свайго сябра Хведзю Бычылу, які страціў нагу падчас падрыву нямецкага эшалона і атрымаў за гэта ордэн.

Няўжо ж такі адукаваны і дасведчаны журналіст, як Ваганаў, не разумее простай розніцы паміж лакальным эпізодам вайны (падрыў цягніка) і маштабнай усебеларускай партызанскай аперацыяй, у якой былі задзейнічаныя дзясяткі тысяч партызанаў (менавіта так падаецца «рэйкавая вайна» савецкай і лукашэнкаўскай прапагандай)?

Аўтар кнігі не адмаўляе, што партызаны падкладалі выбухоўку пад рэйкі, ён ставіць пад сумнеў (дарэчы, вельмі пераканаўча) менавіта маштабнасць і эфектыўнасць гэтых дзеянняў.

Як чалавек, які цікавіцца гісторыяй Другой сусветнай вайны, падам адзін толькі факт.

**Не зразумела, як вяжацца супрацiў фашызму і «рэквізіцыя» каровы »**



Крыж на месцы вёскі Дражна, спаленай партызанамі.

Партызаны па загадзе з Масквы ўзрываюць сотні кіламетраў чыгункі, пускаюць пад адхон дзясяткі (калі не сотні) эшалонаў з ваеннай тэхнікай — так кажа савецкая прапаганда. А немцы ў гэты ж час спакойна перавозяць праз Беларусь некалькі танкавых дывізій (цэлая чыгуначная армада) з-пад Курскай дугі ў Італію, дзе пачалася аперацыя саюзных войскаў, і не зазнаюць ніякіх праблем.

Далей Ваганаў грэбліва называе «прымітыўнай кан'юнктуршчынай» пацверджаныя фактамі сцвярджэнні аўтара пра злачынствы партызан супраць мірнага насельніцтва (рабаванні, забойствы, здзекі). Значыць, па логіцы спадара Ваганава, і Васіль Быкаў быў «прымітыўным кан'юнктуршчыкам», калі пісаў пра гэта ў сваіх вядомых творах: «Круглянскі мост», «На балотнай сцяжыне», «Доўжык», «Ружовы туман».

Трэба спадару Ваганаву азнаёміцца з найвыдатнейшай дакументальнай кнігай успамінаў Іллі Копыла «Нябышына. Вайна». Хай прачытае пра тое, як партызаны забіралі апошнюю ежу, забівалі жанчын. А пасля вайны пісалі кніжкі, што тры разы грамілі нямецкія гарнізоны ў вёсцы, дзе тых гарнізонаў не было. Хай прачытае кніжку Віктара Хурсіка «Кроў і попел Дражна» (пра вёску, якую партызаны спалілі разам з жыхарамі). А сведчанняў такіх па ўсёй Беларусі процьма! Нават у адкрытых архівах ёсць такія звесткі.

Не прымае спадар Ваганаў і сцвярджэння, што Масквой ставіўся загад партызанам правакаваць акупацыйныя ўлады на акцыі застрашвання мірнага насельніцтва. Дык нават чытаючы савецкія кніжкі, можна зрабіць такую выснову. З аднаго боку сотні тысяч партызан, цэлыя партызанскія зоны, сельсаветы з савецкай уладай, немцы, якія баяцца выехаць з горадоў. А з іншага боку — спаленыя акупантамі беларускія вёскі, якія партызаны чамусьці не імкнуліся ратаваць. Як, напрыклад, вёсачка Лозкі ў Калінкавіцкім раёне, якую спалілі пасля забойства некалькіх нямецкіх салдатаў. Спаліла рота карнікаў. У той час, як у навакольных лясах адседжвалася цэлая партызанская брыгада! Дык ці ж не правакацыя гэта, спадар Ваганаў? І палілі ж да самага прыходу Савецкай Арміі, нават летам 1944 года! Дык чаму ж партызны не абаранялі людзей?

Верхам жа цынізму з'яўляецца, на мой погляд, «перл» спадара Ваганава пра тое, што такія кнігі горшыя нават за лукашэнкаўскія, бо «адмаўляюць удзел беларусаў у еўрапейскім... Супраціве фашызму...»

Не зразумела толькі, як вяжацца супраціў фашызму і «рэквізіцыя» партызанамі ў шматдзетнай сям'і каровы зімой (а гэта верная смерць) ці забойствы настаўнікаў толькі за тое, што яны вучылі дзяцей?

Чамусьці Хведзя Бачыла не пайшоў у партызаны, калі дзясяткі тысяч беларусаў ляглі ў Курапатах, атрымаўшы кулю ў патыліцу ад бальшавіцкіх катаў, калі лепшых сялян высылалі на верную смерць у Котлас. У партызаны ж падчас нямецкай акупацыі ішлі, бо Масква ставіла людзей у нялюдскія ўмовы, бо быў выбар — або знішчэнне сям'і і залічэнне ў здраднікі, або партызанскі атрад. І прыгожыя словы пра еўрапейскі супраціў фашызму — гэта здзек.

Ну а тое, што спадар Ваганаў так паважліва ставіцца да «партыйных гісторыкаў», «якія ўсё ж такі былі навукоўцамі» — гэта ўвогуле нешта страшнае. Гэта Лаўрэнцій Цанава, які выдаў шматстаронкавы ілжывы опус пра партызанку ў Беларусі, быў гісторыкам?

Ён жа таксама працаваў з архівамі і дакументамі. Да таго ж, згодна з пячорнай логікай спадара Ваганава, можна расстрэльваць невінаватых, ссылаць, катаваць, але змаганне з фашызмам усё спіша? І трэба бальшавіцкаму кату Ваўпшасаву несці кветкі і ставіць помнікі, бо ён жа «змагаўся з фашызмам».

Пакуль мы не будзем адкрыта, ва ўвесь голас казаць (перш за ўсё, школьнікам і студэнтам) пра злачынствы бальшавіцкага рэжыму, у тым ліку і здзейсненыя савецкімі партызанамі, пакуль мы не пачнём катаў называць катамі, не зважаючы на тое, што яны бралі ўдзел, як кажа Ваганаў, у «еўрапейскім супраціве фашызму», нас чакае далейшая маральная дэградацыя.

**Дзяніс Рабянок, Калінкавічы**

# Небяспечная з'ява

**Сяргей Ваганаў** адказвае Дзянісу Рабянку.

Магчыма, я недакладна сфармуляваў сваю пазіцыю. Але ўсё ж лічу, што трэба ўважліва чытаць тое, што напісана. Інакш мой апанент не сцвярджаў бы, што нагодай для ўзгаданых нататак стала кніжка «Партизаны СССР. От мифов к реальности»...

Нагодай стала не кніжка, а «канцэпцыя», выкладзеная Анатолем Тарасам у інтэрв'ю інтэрнэт-газеце «Салідарнасць». У якім, нагадаю, усё пра гэтую кніжку ён сказаў сам: «...пабудавана на выкарыстанні ўжо надрукаваных матэрыялаў... у іншых кнігах, у часопісных артыкулах, у газетах, у інтэрнэце... Новай з'яўляецца толькі аўтарская канцэпцыя, на падставе каторай гэтыя матэрыялы зведзены разам...»

Якая ж гэта «невядомая гісторыя», што будуецца на «выкарыстанні ўжо надрукаваных матэрыялаў»? І якая ж гэта «новая канцэпцыя» — сабраць пад адну вокладку аднабакова і тэндэнцыйна падабраныя звесткі пра «савецкіх партызан», а потым з выглядам адкрывальніка сцвярджаць, што «ўся гісторыя партызанскага руху СССР — адзін вялікі міф».

**Тарас стварае замест адной прапагандысцкай міфалогіі іншую, спакушаючы чытача прымітывам »**

Я не ведаю, чаму А.Тарас лічыцца — ці ён сам сабе лічыць — гісторыкам. Каб ён займаўся толькі папулярызацыяй гістарычных ведаў, абмяжоўваўся складаннем адпаведных зборнікаў, ягоная дзейнасць была б, магчыма, карыснай. Але, карыстаючыся здабыткамі працы вядомых і паважаных гісторыкаў, не маючы нічога здабытага самастойна, ён намагаецца выбудоўваць уласныя «канцэпцыі», піярыць іх, раздаючы інтэрв'ю і ствараючы, між іншым, сабе імя сур'ёзнага навукоўца.

Што робіць Тарас з балючай партызанскай тэмай? Настрыгае з розных выданняў здабытыя гісторыкамі ды краязнаўцамі праўдзівыя звесткі, перастварае вядомае ў быццам бы невядомае і выбудоўвае быццам бы новую, незалежную, так бы мовіць, «канцэпцыю», спекулюючы на безумоўнай чытацкай цікавасці да гістарычных падзей.

Камусьці, магчыма, падабаецца такі метад. Я ж лічу яго кан'юнктуршчынай, якая стварае замест адной прапагандысцкай міфалогіі іншую, спакушаючы чытача прымітывам.

Галоўнае, на што хочацца звярнуць увагу, — небяспека, якую ўяўляе сабой палітычная кан'юнктура. Надаючы сабе прыстойны выгляд быццам бы навуковасці, яна стымулюе ў грамадстве ваяўнічую варожасць, жаданне доўжыць гістарычныя разборкі замест таго, каб яднацца на падставе праўды, каб з пачуццём нацыянальнай годнасці рабіць з трагічнай беларускай гісторыі карысныя і ўсёабдымныя высновы для сучаснасці і, галоўнае, для будучыні.

# Вольскі ў Вільні

Хто купіў квіток на «Крамбы» ў Вільню дзеля **бясплатнай візы**, рызыкуе папоўніць спіс «неўязных».

Арганізатары канцэрта будуць складаць спісы псеўдафанатаў гурта, што скарысталіся магчымасцю атрымаць бясплатную візу, але не пайшлі на канцэрт. Звесткі пра нядобрасумленных кліентаў будуць перададзеныя ў амбасаду Літвы. У далейшым у іх могуць узнікнуць праблемы пры атрыманні візы.

У суполцы «Крамбамбулі» ў сацыяльнай сетцы напісана: «Усе квіткі пранумараваныя. Калі чалавек прыйдзе на канцэрт і аддасць квіток, насупраць яго нумара і прозвішча ставіцца плюсік. Гэтыя дадзеныя потым даюцца амбасадзе для аналізу. Такія канцэрты будуць працягвацца, таму будзе ствараецца база дадзеных: белая, шэрая і чорная. Таму, калі вы не збіраецеся на канцэрт, лепей падумаць. Нагадаем, за махлярства з візамі ў ЕС прадугледжана абмежаванне на ўезд на 5 год. Давайце паважаць адзін аднаго!»

Па словах Ганны Вольскай, менеджаркі «Крамбамбулі», «некаторыя людзі шчыра прызнаюцца, што яны набылі квіток, каб атрымаць візу… Гэта проста непрыгожа перад тымі, што цяпер не могуць набыць квіток на канцэрт», кажа Вольская. «Ёсць людзі, якія заходзяць у офіс і проста кажуць «а где тут визы дают».

28 красавіка ў Вільні, у клубе Loftas (Švitrigailos g. 29), гурт «Крамбамбуля» прэзентуе альбом «Драбадзі-драбада».

Першапачаткова імпрэза мела адбыцца ў Мінску ў клубе «Рэпаблік». Аднак арганізатары атрымалі адмову ў правядзенні.

**Аксана Рудовіч**




## ФУТБОЛ

### 3 і 4 туры

**У пятніцу 6 красавіка і аўторак 10 красавіка** адбудуцца матчы чарговых турах чэмпіяната краіны па футболе.

**6 красавіка:**
«Гомель» — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна)
«Славія» (Мазыр) — «Шахцёр» (Салігорск)
«Мінск» — «Дынама» (Мінск)
«Белшына» (Бабруйск) — «Нёман» (Гродна)
«Брэст» — БАТЭ (Барысаў)
**10 красавіка:**
«Нёман» — «Брэст»
«Дынама» — «Белшына»
«Шахцёр» — «Мінск»
«Тарпеда-БелАЗ» — «Славія»
«Нафтан» — «Гомель»

## КАНЦЭРТЫ

### Джаз для гурманаў

**5 красавіка а 19-й у Джаз-клубе Яўгенія Уладзімірава (Кастрычніцкая пл., 1)** — Хэнк Інгліш з праграмай «Джаз для гурманаў».

### Ніно Катамадзэ і гурт Insight

**5 красавіка а 19-й у Палацы Рэспублікі (Кастрычніцкая пл., 1)** — Ніно Катамадзэ і гурт Insight.

### Шэдэўры сусветнага арганнага мастацтва

**11 красавіка а 19-й у Вялікай зале філармоніі (пр.Незалежнасці, 50)** — канцэрт «Шэдэўры сусветнага арганнага мастацтва» ў выкананні Ксеніі Пагарэлай.

### HITT

**11 красавіка а 20-й у RE:Public (Прытыцкага, 62)** — HITT (Японія). HITT камбінуе ў сваіх музычных творах рокрытмы і джазавыя балады. Сам артыст характарызуе свой стыль музыкі як «фартэпіяна-рок».

## ВЫСТАВЫ

### Біенале студэнцкай графікі

**11 красавіка а 18-й у Палацы мастацтва (Казлова, 3)** адкрываецца выстава «7. Агульнапольскае Біенале студэнцкай графікі. Познань 2011». Выстава працуе да 26 красавіка.

### Лялька — Мадэль — Вобраз

**Да 27 красавіка ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе выстава аўтарскіх лялек Аляксея Мартынава «Лялька — Мадэль — Вобраз». Майстар, які стварае лялькі, звязвае розныя светы — рэальны і той, дзе лялькі ажываюць. Кожная лялька майстра — жывая, сагрэтая цеплынёй рук свайго стваральніка.




### Веснавы настрой

**Да 8 красавіка ў мастацкім салоне «Ад вучня да майстра» (Кульман, 3 (гандлёвы цэнтр COOLMAN), 3 паверх, пак.3176)** працуе выстава «Веснавы настрой». Выстава прымеркавана да Міжнароднага жаночага дня», на ёй можна не толькі агледзець працы, выкананыя ў тэхніках жывапісу, графікі, габелена, баціка, керамічныя вырабы, але і набыць іх.

### Мастацтва пачынаецца з малога

**Да 9 красавіка ў Мастацкім музеі (Леніна, 20) працуе выстава «Мастацтва пачынаецца з малога»**, на якой можна будзе ўбачыць беларускі жывапіс XX стагоддзя з прыватных калекцыяў.

### Трапічныя мятлушкі

**Да 22 красавіка ў Доме-музеі I з'езда РСДРП** працуе выстава жывых трапічных мятлушак. На выставе можна ўбачыць мятлушак з Паўднёва-Усходняй Азіі, Аўстраліі і Амерыкі.

### Французская фатаграфія ад вытокаў да нашых дзён

**Да 25 красавіка ў Гістарычным музеі працуе выстава фатаграфіі** «100 х Францыя». Прадстаўленыя на выставе фатаграфіі належаць Нацыянальнай бібліятэцы Францыі, Музею д'Арсэ і Цэнтру Пампіду ў Парыжы. Выстава раскрывае гісторыю фатаграфіі, распавядае аб развіцці фатаграфічных тэхнік і напрамкаў. У экспазіцыі можна ўбачыць творы фатографаў-пікторыялістаў, сюррэалістаў, гуманістаў і іншых.

## ТЭАТРЫ

### 4 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Оперы і балета** — «Эсмеральда»

### 5 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Што баліць?»
**Оперы і балета** — «Алека. Балеро»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»

### 6 красавіка

**Лялек** — «Чайка. Спроба прачытання»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Оперы і балета** — «Спартак»

### 7 красавіка

**Юнага гледача** — «Дарога на Віфлеем»
**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Оперы і балета** — «Князь Ігар»
**Беларускай драматургіі** — «Вандроўнікі ў Нью-Ёрку»

### 8 красавіка

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»
**Оперы і балета** — «Марныя перасцярогі»

### 9 красавіка

**Купалаўскі** — «Я не пакіну цябе»
**Купалаўскі** — «Translations»

### 10 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Дарагая Елена Сяргееўна»
**Оперы і балета** — «Аіда»

### 11 красавіка

**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Оперы і балета** — «Жызэль»
**Юнага гледача** — «Пан міністр»

### 12 красавіка

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Купалаўскі** — «Офіс»
**Купалаўскі** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»
**Оперы і балета** — «Чароўная флейта»

### 13 красавіка

**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Купалаўскі** — «Не мой»
**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»

## КІНО

### Мапасан з ікламі

**Мілы сябра** (Bel Ami)
Францыя — Вялікабрытанія — Італія, 2012, каляровы, 104 хв.
**Рэжысёры:** Дэклан Данелан, Нік Армерод
**Ролі выконваюць:** Роберт Пацінсан, Крысціна Рычы, Ума Турман, Крысцін Скот Томас, Наталія Цена, Колм Міні
**Жанр:** Драма паводле рамана Гі дэ Мапасана
**Адзнака:** 7,5 (з 10)

Былы вясковец Жорж Дзюруа прагне вырвацца з галечы. Сталіца дае такі шанец. Але ў Парыжы ўсё вырашаецца праз жанчын. Дзюруа ідзе да сваёй мэты, выкарыстоўваючы падман і спакушэнні.

Мапасаназнаўцы, абураныя, што літаратуру скарацілі на карысць коміксавай энергетыкі, плююцца атрутай. А дзяўчынкі, заблукалыя ў «Прыцемках», памылкова прымаюць бляск зла за модны гламур. Першым дапамагаць позна. Другім — а іх будзе куды болей — раю прыслухацца да музыкі і прыглядзецца да фінальнага кадра.

**Андрэй Расінскі**



# Мара беларуса: «Ружовашчокая, славянская, беларускамоўная»

Ідэальны хлопец? Ідэальная дзяўчына? Якія яны? **Апытанне на вуліцах.**

Вясна — час кахання. Пасля зімовага сну абуджаецца не толькі прырода, але і чалавечыя пачуцці. Каб прывабіць сваё каханне, яго трэба нечым зацікавіць.

Карэспандэнты «Нашай Нівы» запыталіся ў хлапцоў і дзяўчат на вуліцах Мінска, якім павінен быць чалавек, каб ім спадабацца.



Для мяне самае галоўнае, каб у хлопца была галава на плячах. Усё астатняе мне не важна. Ну і каб было прыемна з ім. Знешнасць усё ж мае нейкае месца. Але галоўнае, каб былі мазгі.



Ідэальных людзей няма. А так — адукаваны, культура паводзінаў павінна быць. Добры, шчыры, справядлівы.



Перш за ўсё ён павінен кахаць, паважаць дзяўчыну, быць ува ўсім ідэалам для яе.



Разумны. Яшчэ — каб хоць крыху сімпатычны быў. Вышэйшая адукацыя. Узрост — ад 18 да 30. І здаровы. У цэлым, каб нармальны быў. У меру сур'ёзны, не занадта вясёлы, але каб хапала пачуцця гумару. Ну і мазгоў, канечне ж.



Ён павінен быць мэтанакіраваны і перспектыўны. Не лічачы знешніх якасцяў і гэтак далей.



Па-першае, розум. Канечне, гумар вельмі важны. Каб быў станісты. Ну і проста добры чалавек.



Добры, спагадлівы. Сапраўдны мужчына: каб рабіў падарункі і проста кахаў.



Добры, разумны, прыгожы, дагледжаны. Не грубы, каб быў прыемным чалавекам.



Любая нармальная дзяўчына, якая сябе паважае. Не павінна ўжываць наркотыкі, не павінна піць, курыць. А павінна сачыць за сабой. Ну а ўсё астатняе — гэта ўжо справа густу хлапцоў.



Дзяўчына павінна ісці ў разрэз з сучаснымі стэрэатыпамі. З тым вобразам, які навязваюць сучасным дзяўчатам: гламур і іншае. Дзяўчына ў першую чаргу павінна быць маці, захавальніцай хатняга ачагу. Ну і глядзець сябе. Заставацца дзяўчынай, заставацца самой сабой. І тады мы іх будзем кахаць. Іх сапраўдных.



Дзяўчына павінна быць добрай, прыгожай. Але прыгожыя ў нас усе беларускія і рускія дзяўчаты, але беларускія больш. І кемлівай.



Павінна быць з характэрнымі для нашай краіны асаблівасцямі. Ружовыя шчокі. Сімпатычная славянская знешнасць: бялявыя валасы, косы. Такая «вясновая» дзяўчына.

## Ніякіх там пазногцяў доўгіх



Прыгожая, з вялікімі блакітнымі вачыма, кучаравымі валасамі. Можа быць бландзінка, можа быць русай, светлай ці цёмнай — не важна. Фігура можа быць розная. Не толькі танюсенькія дзяўчаткі. Могуць быць трохі «ў целе».



Яна павінна адпавядаць беларускім і славянскім традыцыям. Ніякіх там пазногцяў доўгіх, ні фарбаваных у нейкі экзатычны колер валасоў. Быць простай, як было ў традыцыях беларускага народа. Быць сціплай.



Усе прывыклі малпаваць Еўропу, Амерыку. Усе гэтыя замашкі, пахабшчына. Я лічу, дзяўчына павінна быць самой сабой, а не быць нейкім поп-сімвалам, які ўсе бачаць па тэлебачанні. Часцей за ўсё на вуліцы гэта і сустракаеш. Калі спытаць дзяўчыну, чым яна займаецца, самы верагодны адказ — гэта «хаджу па клубах». Я думаю, гэта няправільна.



Па-першае, каб гаварыла пабеларуску. Падругое, каб прыгожа апраналася, не паліла, не піла.

## Каб хоць крыху сімпатычны быў



Крыху больш сціплай, чым большасць нашых дзяўчат. Бо ўплыў заходняй культуры ў апошні час значна пашырыўся на нашай тэрыторыі. І традыцыяналізм, які характэрны для нас, беларусаў, ён знікае. Усе становяцца раскаванымі: танцулькі, бегаюць, скачуць. А трэба быць больш сціплымі. Хоць я не адмаўляю, што ў пэўныя моманты трэба праявіць ініцыятыву.



Беларуская дзяўчына павінна быць патрыётка́й сваёй краіны. Але не пагарджуся з папярэднім выказваннем. У наш час трэба і патанчыць схадзіць, і пагуляць. Не ўвесь жа час сядзець за партамі.



Было б прыемна, каб яна размаўляла на беларускай мове. А ў астатнім — галоўнае, каб душа была.

**Аксана Рудовіч**

# Спявачка Валерыя: Беларусь — гэта Швейцарыя

Расійская **поп-зорка** дала ў Мінску юбілейны канцэрт.

У Мінск спявачка, чыя песня пра «часікі» гучала з кожнага папсовага праса, прыехала адзначаць дваццацігоддзе на сцэне. Па-за сцэнай Валерыя выявілася трошкі не такой, як мы ўяўляем расійскіх поп-зорак. Ніякіх эксцэсаў, накшталт Кіркорава з «ружовай кофтачкай». Прэс-канферэнцыя плаўна перарасла ў нешта сярэдняе паміж свецкай гутаркай і кухоннымі пасядзелкамі.

Праяваў «зорнасці» Валерыя і яе муж-прадзюсар Іосіф Прыгожын, з якім яна гастралюе, не дэманстравалі. Не было ўражання, што тыя праявы ўвогуле характэрныя для іх.

Тэма творчасці Валеры калі і закраналася, дык толькі з падачы Прыгожына. Муж-прадзюсар пахваліўся, што новая песня Валеры была запісана ў Галівудзе з аркестрам, а таксама сказаў, што хутка з'явіцца новы DVD-дыск спявачкі. Прыгожын даводзіў, што дакладна ведае, як зрабіць з расійскай зоркі сусветную знакамітасць — пасля гастроляў у Англіі, дзе Валерыя выступіла разам з Simply Red, схема ў яго склалася канчаткова. Што ж, пабачым, як яму ўдасца гэты эксперымент з жонкай.

Большасць часу спявачка абмяркоўвала праблемы духоўнасці альбо яе адсутнасці ў шоу-бізнэсе, сакральнае «грошы — гэта не галоўнае» і... краіны Балтыі. Зорная пара, якая толькі што прыехала з Рыгі, абуралася латвійскай палітыкай: «Навошта ім гэты ЕС, усе з'ехалі, заводы стаяць, моладзь уцякае ў Англію, застаюцца толькі рускія пенсіянеры, у якіх імкнуцца адабраць мову». І далей па тэксце тэлеканала «Россия». «Трэба, каб палітыкі ўсе паміж сабой дамовіліся і зрабілі так, каб усім было хораша», — агітавала за мір ва ўсім свеце Валерыя.

Прыгожын казаў, што палітычныя тэмы яго вельмі цікавяць: падзеі ў Афрыцы (Валерыя там выступала і зрабіла вялікае ўражанне на кіраўнікоў мясцовых рэспублік); інтэграцыя краінаў Балтыі ў ЕС, а таксама немагчымасць вяртання СССР (што Прыгожына радуе).

Тэму прэзідэнцкіх выбараў у Расіі так і не закранулі. Затое хвалілі Беларусь. Валерыя жартам называе яе Швейцарыяй: дарогі, шырокія вуліцы, паветра і дранікі. «І калі ідзеш ноччу па парку, то зусім не страшна».

Выявіліся Валерыя з мужам звычайнай сямейнай парай, якая, перабіваючы адно аднаго, імкнецца выказаць адну і тую ж думку. І так шмат гадоў, пад акампанемент «часікаў».

**Юрась Ускоў**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Сцісла

### Асцярожна, кляшчы!

Крывасмокі прачнуліся ў беларускіх лясах. На сакавік і красавік выпадае пік веснавой актыўнасці кляшчоў, якіх у гэту пару асабліва шмат на ўзлесках, паплавах, а таксама ўздоўж рэк і азёраў. У мэтах засцярогі ад кляшчоў медыкі раяць апранацца так, каб заставалася мінімум адкрытых частак цела.

### Свежы бярозавік

збіраюць у гэтыя тыдні ва ўсёй Беларусі. Гэты сок асабліва карысны для паляпшэння абмену рэчываў.

### Віртуальныя падарожжы ў Мір і Нясвіж

Распрацаваныя трохвымерныя туры па турыстычных аб'ектах краіны. У іх можна адправіцца на сайце Нацыянальнага агенцтва па турызму (belarustourism.by).

### Танныя авіябілеты да Масквы адмянілі

Цяпер мінімальны кошт пералёту — 75 еўра ў адзін бок. На працягу зімы за білет у адзін бок дастаткова было заплаціць 43 еўра. Да канца красавіка яшчэ будуць дзейнічаць танныя білеты па 14 накірунках, але Масквы сярод іх ужо няма.

### У ЗША паставілі латарэйны рэкорд

Быў разыграны прыз памерам $640 мільёнаў. Латарэя называецца Mega Millions. Прыз дастанецца камусьці з жыхароў штатаў Мэрылэнд, Канзас і Ілінойс. Што рабіць з такім набыткам? Столькі грошай за ўсё жыццё не патраціш.

**СГ**




**Падчас фестывалю Chel'z Extreme Games Belarus 2012 прайшоў адкрыты Чэмпіянат Беларусі па чэрлідынгу. Спаборніцтвы праходзілі ў некалькіх узроставых групах і класіфікацыях. У самай відовішчнай частцы — выступы змяшаных груп — узнялі ўдзел 6 каманд. Перамагла каманда з Мінска Belarus.**




**Актывісты ініцыятывы «Ежа замест бомбаў» зладзілі бясплатную раздачу прадуктаў беспрытульным у Міхайлаўскім скверы сталіцы. Каля трох дзясяткаў людзей без пэўнага месца жыхарства змаглі бясплатна падсілкавацца. Міліцыя не чаплялася.**



**Так «дояць» бярозы. Работнікі эксперыментальна-даследчага прадпрыемства «Усход» (вёска Вернікі, Мінскі раён) нарыхтоўваюць бярозавы сок. Усяго ў «садзе» гаспадаркі — 2500 падсочных бярозаў, з якіх штодня атрымліваюць 10 тонаў соку.**

## «НН» сто гадоў з вамі

Праясняецца пагода,
Бо вярнулася вясна.
Усё чакаеш, што прырода
Устрапянецца ада сна.
Зазвіняць жалобна крыгі,
І бурлівая вада
Снег, размоклы ў час адлігі,
Змые з лугу без сляда.

*Максім Багдановіч.*

**«НН». №13. 1912.**

**Пачалася рэканструкцыя мінскай плошчы Незалежнасці.** Рух транспарту паступова пераносіцца на вуліцу Савецкую. Пад зямлёй плануюць пабудаваць чатырох'ярусны грамадска-гандлёвы цэнтр з паркінгамі, крамамі, рэстаранамі. Яго столь будзе выходзіць на паверхню ў выглядзе купала.

**«НН». №13. 2002.**

## Анекдоты

* * *

Чым адрозніваецца ўрад ад зграі ваўкоў? Толькі тым, што ваўкі ў сваёй зграі не вылізваюць падхвосце важаку.

* * *

Красавік тэлефануе снежню.

— Слухай, дружа, у адпачынак сабраўся, падмяні мяне!

— Ды не пытанне, ты ж мяне падмяняў.

* * *

Клімат у Беларусі цудоўны, але надвор'е яго псуе.

* * *

Факт адсутнасці наркотыкаў у апазіцыянераў быў кваліфікаваны суддзямі як хуліганства.

* * *

Прыходзіць мільянер да Лукашэнкі і кажа: «Адпусці ты мяне, Рыгоравіч. За мяжу хачу. Стаміўся я».

«Ды не пытанне. Ты вось толькі на развітанне калгас падымі».

Падняў алігарх калгас. Прыходзіць да лёсавызначальнага.

«Выканаў просьбу. Можна з'еду?»

«А ты мне вось што — палац лядовы пабудуй!»

Стаіць палац лядовы.

«Дык, Рыгоравіч, магу паехаць?»

«А зараз, ведаеш, па традыцыі трэба на дарожку пасядзець».

* * *

Пасяўную будзе кантраляваць міліцыя, а надвор'е забяспечыць прэзідэнт.

* * *

Беларусь, 2011 год. «Алё, міліцыя? Тут на вуліцы пляскаюць у ладкі, прыязджайце хутчэй! А, не, гэта проста стрэлы... Даруйце, падалося...»

* * *

Новая тактыка адлову злачынцаў. Калі злачынца не выяўлены на працягу двух тыдняў, міліцыя выбірае яго шляхам жараб'ёўкі па дадзеным мікраёне.

* * *

З тэніснага турніру вывелі гледача, які крычаў разам з Азаранкай.

* * *

Марозная раніца. Сонца за аблокамі. Вецер ганяе па небе снежныя шматкі.

Цішыня. Чуваць толькі, як мацюкаюцца птушкі, якія вярнуліся з поўдня.

* * *

За заклік да пераносу Чэмпіянату свету па хакеі апазіцыянераў перастануць пускаць у лядовыя палацы.

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фармата А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 03.04.2012.
Замова № 1451.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12